Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№37 (4581) 17 верасня 2010 г.


## У нумары:





# Над імклівымі хвалямі Нёмана

**Якраз у гістарычным месцы, на Замкавай гары ў Гродне знаходзіцца Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага — першая публічная бібліятэка Беларусі. Год яе заснавання — 1830-ы. Верасnёўскімі днямі, парой шчодрага бабінага лета, яна святкуе свой 180-гадовы юбілей.**



Здаецца, лепшага месца для працы над кнігай, як у старажытным будынку Новага замка, і не знойдзеш.

Тут усё нагадвае пра гісторыю, калі на высокім узбярэжжы Нёмана віравалі лёсавызначальныя для Айчыны падзеі. І не дзіва, што тут цяпер — сховішча каштоўных кніг гэтага краю. Менавіта тут, у старым будынку з моцнымі сценамі і нязвыклымі для нашага часу высокімі столямі — галоўны корпус бібліятэкі. Сама скарбніца размяшчаецца ў чатырох прыстасаваных памяшканнях у розных канцах горада: па вуліцах Замкавая, 20, Савецкая, 8 і 25, Ажэшкі, 17. Усе будынкі — і ў гэтым таксама ўнікальнасць першай публічнай — маюць гістарычную каштоўнасць. З улікам характару кожнага і месяцца ў іх розныя філіялы ды аддзелы скарбніцы. Маючы непаўторную гісторыю, па якой у пэўнай ступені можна вывучаць гісторыю беларускіх бібліятэк, Гродзенская скарбніца цягам усіх гадоў адпавядае свайму галоўнаму прызначэнню — захавальніцы нацыянальнай спадчыны беларускага народа. Яна згадваецца, калі ходзіш па калідорах бібліятэкі, па правым крыле замка, дзе месціліся спальныя пакоі і пакоі, дзе прымаліся госці караля, а далей — была прыёмная, на другім паверсе размяшчаліся сенатарская зала, пасольская. Новы замак у Гродне — гэта новы каралеўскі палац, збудаваны ў 1734 — 1751 гадах для правядзення соймаў. Адбываліся тут і асноўныя соймы Рэчы Паспалітай. У тым ліку і апошні сойм, на якім быў ратыфікаваны Другі падзел краіны. Не дзіва, што краязнаўчы аддзел бібліятэкі — у гэтым будынку. Тут жа — гістарычная літаратура, мастацкая, галоўныя залы, дзе адбываюцца сустрэчы і канферэнцыі. А ў доміку Элізы Ажэшкі цяпер — юнацкі філіял. Ля доміка — так званая Швейцарская даліна (таксама гістарычная назва), якая відаць з акон скарбніцы. Тут — вялікі збор літаратуры на замежных мовах (на традыцыйных папяровых і электронных носьбітах), шыкоўнае сучаснае аздабленне пасля капітальнага рамонту, з рухомымі стэлажамі ў фондасховішчы (кшталту тых, што ўстаноўлены ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі). Каб знайсці кнігу, супрацоўнік адным дотыкам рукі прыводзіць у рух застаўленую кнігамі паліцу, яна паслухмяна паварочваецца і адкрывае доступ да неабходных дакументаў.

Пры беражлівым захаванні лепшых традыцый тут прадуктыўна выкарыстоўваюць сучасныя тэхналогіі, і новае абсталяванне для гэтага арганічна ўпісваецца ў інтэр'ер.

Ва ўсіх чатырох памяшканнях у розных кутках горада створаны інтэрнэт-класы, дзе з выкарыстаннем новых тэхналогій можна карыстацца фондамі іншых бібліятэк.

Між іншым, дзесяць гадоў таму, у 2000-м калектыў бібліятэкі распрацаваў праект "Аўтаматызацыя бібліятэчных працэсаў у Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я.Ф.Карскага" на рэалізацыю якога быў выдзелены Грант з Фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы культуры на набыццё камп'ютарнай тэхнікі. Вынікаў чакалі нядоўга. На сённяшні дзень камп'ютарны парк абласной бібліятэкі налічвае 109 адзінак.

Тут, сапраўды, можна дзівіцца, як тэхніка служыць чалавеку. Аўтаматызаваны ўсе бібліятэчныя працэсы — на шляху кнігі ад моманту яе заказу да выдачы чытачу. А з 2008-га абласная бібліятэка з'яўляецца паўнапраўным членам рэспубліканскага бібліятэчнага кансорцыуму па аналітычным роспісе перыядычных выданняў "LIBKARD".

Электронны каталог Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага, які пачаў стварацца ў 1993 годзе, адлюстроўвае ўжо 99 працэнтаў усяго фонду. Бібліятэка прапануе наведвальнікам 12 уласных баз дадзеных. Сярод іх — "Мастацтва", "Гродзенская вобласць", "Гродзенская абласная навуковая бібліятэка", "Дзіцячая літаратура", "Памяць Гродзеншчыны" і іншыя. Як асноўны дарадца для ўсіх 18 цэнтральных бібліятэк Гродзеншчыны, абласная бібліятэка перадала ім у карыстанне базу дадзеных "Рэтра" электроннага каталога. Для наведвальнікаў у чытальных залах бібліятэкі абсталяваны 30 аўтаматызаваных рабочых месцаў, 27 з іх — з выхадам у Інтэрнэт. Працуе віртуальная чытальная зала Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, якая забяспечвае чытачам доступ да сусветных інфармацыйных рэсурсаў. У аддзеле мастацтва і дзіцячым філіяле дзейнічаюць мультымедыйныя цэнтры…

Пра сучасныя знаходкі ў дапамогу бібліятэкару і чытачу можна згадваць яшчэ доўга. Але не гэта вызначальнае для ўстановы. Дбаючы пра будучае, тут клапатліва працуюць з моладдзю. Менавіта за ўзровень гэтай працы атрымалі і спецыяльную прэмію Прэзідэнта краіны дзеячам культуры і мастацтва за 2008 год. "А менавіта — за маральна-духоўнае выхаванне моладзі на аснове хрысціянскіх каштоўнасцей. Мы змаглі аб'яднаць і святароў, і прадстаўнікоў праваахоўных органаў, і медыцынскіх устаноў і распрацавалі праграму "З надзеяй — у будучыню", — распавядае дырэктар Гродзенскай абласной бібліятэкі Лідзія Мальцава. — На працягу пяці гадоў мы плённа супрацоўнічаем з Гродзенскай епархіяй, а пачыналася ўсё з рэалізацыі дабрачыннай праграмы "У справы добрыя ўкладзі ўсё лепшае з сваёй душы". Праграма ўключала сацыялагічныя даследаванні, акцыі падтрымкі інвалідаў і сірот, і зусім незвычайныя мерапрыемствы кшталту "Суд над жорсткасцю". Мы аднавілі традыцыі Элізы Ажэшкі, калі яна для дзяцей-сірот арганізоўвала навагоднія ёлкі. Мы гэта таксама рабілі. Усё для таго, каб выхаваць духоўна багатага, адоранага беларуса".

Сваю дзейнасць калектыў бібліятэкі каардынуе з грамадскімі і дзяржаўнымі арганізацыямі, установамі і творчымі саюзамі. За год праводзіцца звыш 250 разнастайных мерапрыемстваў (краязнаўчыя чытанні, навукова-практычныя канферэнцыі, прэзентацыі кніг і творчыя сустрэчы з удзелам пісьменнікаў Гродзеншчыны і краіны, літаратурныя вечарыны, інфармацыйныя тыдні, дні інфармацыі, віктарыны і конкурсы, гадзіны цікавых паведамленняў і гутаркі, экскурсіі), якія садзейнічаюць адраджэнню і захаванню нацыянальных культур, зберажэнню багатай гісторыка-культурнай спадчыны рэгіёна.

Дзякуючы плённай працы людзей, якія ўсе свае веды, майстэрства, творчасць аддаюць асвеце грамадства, развіццю духоўнасці, павышэнню яго адукацыі і культуры, Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага годна сведчыць: распачаты летапіс нашага жыцця працягваецца…

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Аляксея Салея і з архіва бібліятэкі.

Калаж Віктара Калініна

(Працяг тэмы на стар. 4 - 5.)

## Пунктірам

• Выбары Прэзідэнта Беларусі прызначаныя на 19 снежня 2010 года. Такое рашэнне прынята 14 верасня на пасяджэнні 5-й пазачарговай сесіі Палаты прадстаўнікоўНацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў дзяржаўнымі ўзнагародамі 87 чалавек. Ордэна Пашаны ўдастоены загадчык кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Май Данцыг. Прафесара кафедры дызайну, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і тэхнічнай графікі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П. М. Машэрава Віктара Вінаградава, мастака-скульптара, Андрэя Засціцкага і галоўнага дырыжора Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Р. Шырмы Людмілу Яфімаву кіраўнік дзяржавы ўзнагародзіў ордэнам Францыска Скарыны. Гэтым жа ўказам былі прысвоены ганаровыя званні работнікам культуры, навукі, адукацыі і спорту. Ганаровае званне народнага артыста Беларусі прысвоена артысту балета, вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Ігару Артамонаву і галоўнаму хормайстру гэтага тэатра Ніне Ламановіч.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Расіі Ларысу Доліну з юбілеем.

• Беларускі дзяржаўны цырк планує пераехаць у адрэстаўраваны будынак у лістападзе. Апошняя праграма ў цырку-шапіто, дзе артысты беларускага цырка выступалі амаль два гады, будзе паказаная 26 верасня, і адразу пачнуцца рэпетыцыі новай яркай і відовішчнай праграмы.

• Царкоўны звон часоў Вялікага Княства Літоўскага быў знойдзены ў закінутай студні ў Лёзненскім раёне. Звон вышынёй 55 сантыметраў праляжаў у зямлі больш як паўстагоддзя, але добра захаваўся і ў хуткім часе зойме месца на званіцы новага храма Узвядзення Крыжа Гасподня ў Лёзне.

• У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы ствараецца музей мантый ВНУ свету. Ужо маецца 8 экспанатаў з Беларусі, Польшчы, ЗША, Украіны ды іншых краін. На прапанову дапоўніць калекцыю адгукнуліся універсітэты Германіі, Фінляндыі, Кітая.

• Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ўпершыню экспануе поўны рукапіс паэмы "Курган". Арыгінал захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы і музеі імя Францыска Скарыны ў Лондане, а копія была перададзеная музею Янкі Купалы з нагоды сёлетняга 100-гадовага юбілею выдатнага твора. Да 25 снежня тут таксама можна пабачыць першае друкаванае выданне "Кургана" ў газеце "Наша Ніва" 1912 года.

• Трохметровы бронзавы помнік палітыку, дыпламату, стваральніку трэцяга Статута ВКЛ Льву Сапегу адкрыты ў Лепелі. У 1586 годзе Леў Сапега перанёс горад, які ўваходзіў у яго вотчыну, на тры кіламетры і назваў гэтае месца Новым Лепелем.

• 20 верасня адзначаецца 65-годдзе з дня адкрыцця першай экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. У музеі адбудзецца ўрачыстае святкаванне гэтай падзеі.

• 21—25 верасня ў Беларусі пройдзе свята нямецкай мовы, арганізаванае Інстытутам Гётэ ў г. Мінску і Федэральным міністэрствам адукацыі, мастацтва і культуры Аўстрыі. У межах культурнай праграмы ў Гродне (21 і 22 верасня) і ў Мінску (24 і 25 верасня) выступіць швейцарская пісьменніца і спявачка Брыгіта Шэр. Адукацыйная праграма — семінары і майстар-класы па нямецкай мове — запланавана ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце, Інстытуце Гётэ ў Мінску.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Парады ад Анатоля Крэйдзіча

У гімназію № 3 горада Іванава завітаў Анатоль Крэйдзіч — галоўны рэдактар раённай газеты "Чырвоная звязда".

Мы адразу зразумелі, што госць умее наладжваць кантакт з аўдыторыяй. Так прыемна было пачуць родную мову з вуснаў земляка. У зале ўсталявалася цішыня. Было цікава слухаць чалавека, вядомага не толькі на Іванаўшчыне. Яму наперабой пачалі задаваць пытанні, госць толькі і паспяваў пераключацца з адной думкі на другую. Вучняў цікавіла ўсё: і жыццё, і творчасць, і выдадзеныя і будучыя кнігі. Анатоль Мікалаевіч успомніў свой першы верш, прачытаў нам найбольш блізкі да сэрца паэтычны твор. І ўсё ж госць падкрэсліў, што ён больш схільны да прозы. На пытанне пра любімага аўтара Анатоль Мікалаевіч адказаў так: "У мяне не адзін любімы аўтар, іх сотні, таму назваць усіх немагчыма". Адказ можна было прадбачыць, бо ён не толькі займаецца журналістыкай, але і ўзначальвае Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

А яшчэ ўсіх цікавіла думка Анатоля Мікалаевіча пра нашу школьную газету "Устами гимназиста". Ён даў шмат парад на гэты конт, параіў пісаць не толькі на рускай, але і на беларускай мове.

Наогул, сустрэча з Анатолем Крэйдзічам была цёплай, цікавай і, безумоўна, карыснай.

На развітанне і добры ўспамін Анатоль Мікалаевіч падарыў усім, хто задаваў яму адметныя пытанні, кнігу "Параненыя мары", пажадаў вучням і настаўнікам поспехаў.

Святлана КАРАНКОВІЧ

## Прэзентацыі

# Для аматараў кнігі

У невялікім часавым прамежку паміж Днём беларускага пісьменства і Днём бібліятэкара прайшло мерапрыемства, напасрэдна звязанае з абедзвюма падзеямі. У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося адкрыццё выстаўкі-прэзентацыі "Лепшыя кнігі Беларусі".

Выстаўка была сфарміравана па выніках Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2010", што адбыўся сёлета ўжо ў 50-ы раз. У ім прынялі ўдзел 44 выдавецтвы і выдавецкія арганізацыі, якія прадставілі больш як 250 выданняў па 24 намінацыях (13 тэматычных, 8 спецыяльных і 3 персанальныя). Аўтарытэтнае журы вызначыла пераможцаў, кнігі-дыпламанты I, II і III ступеняў, якія былі прадстаўлены ў экспазіцыі "Лепшыя кнігі Беларусі".

Імпрэзу адкрыў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, які падкрэсліў значныя традыцыі сферы кнігавыдання. Прысутнічалі намеснік міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак і намеснік міністра культуры Тадэуш Стружэцкі.

Імпрэзу працягнулі кіраўнікі і прадстаўнікі выдавецтваў, кнігі якіх былі адзначаны на конкурсе. Як вядома, гран-пры конкурсу "Мастацтва кнігі-2010" атрымаў зборнік "Никогда не забудем", што выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура". У сваім выступленні галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп падкрэсліў, што зборнік, які ўпершыню з'явіўся пасля Вялікай Айчыннай вайны, вытрымаў дагэтуль ужо дванаццаць перавыданняў, а яго агульны наклад склаў больш як мільён асобнікаў. Тым не менш "Мастацкая літаратура" зноў звярнулася да легендарнай кнігі, аздобіла яе арыгінальным афармленнем, што ператварыла "Никогда не забудем" у шэдэўр кніжнай справы.

Галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Ларыса Языковіч прадставіла некалькі выданняў сваёй установы, у тым ліку першы том "Гісторыі беларускай кнігі" (аўтар Міхалай Нікалаеў), прысвечаны кніжнай культуры ВКЛ (пераможца ў намінацыі "Лепшае энцыклапедычнае выданне"); дырэктар выдавецка-рэдакцыйнай установы "Літаратура і Мастацтва" Алесь Карлюкевіч — альбом "Родина-мать зовет" (намінацыя "Лепшае выданне па выяўленчым мастацтве"), створаны Галінай Паўлоўскай пры выкарыстанні калекцыі музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Дырэктар выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў выкарыстаў тэатральную міні-пастаноўку для дэманстрацыі знакамітага Слуцкага Евангелля і кнігі "Дорогами православной Беларуси". Прэзентацыю завяршыла выступленне дырэктара выдавецтва "Рыфтур" Сяргея Плыткевіча, чыё выданне "Дикая жизнь в центре Европы" перамагло ў намінацыі "Лепшы фотаальбом".

Выстаўка-прэзентацыя "Лепшыя кнігі Беларусі", якая будзе працаваць да 30 верасня, прапануе кніжным гурманам усе лепшыя кнігі, створаныя ў нашай краіне.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ



На здымку: галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп перадае дырэктару Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раману Матульскаму кнігу "Никогда не забудем".

Фота Юліі Вачук

## Імпрэзы

# Літаратурны ўрок

У мінскім кінатэатры "Піянер" адбыўся ўрок-прэзентацыя "Па маршруце мастацкага слова" па кнізе Уладзіміра Ліпскага "Янкаў вянок", што прысвечана Янку Купалу. Прысутнічалі мастак кніги Уладзімір Жук, пісьменнік Мікола Маляўка, начальнік упраўлення адукацыі Савецкага раёна г. Мінска Таццяна Янушкевіч ды іншыя госці.

— Няпроста, паверце, было працаваць над гэтай кніжкай, — распавёў аўтар, старшыня праўлення Беларускага дзіцячага фонду, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі. — Перачытаў усяго Купалу ад радка да радка. Прачытаў усё, што пісалі пра класіка. Сустракаўся з многімі людзьмі, вельмі ўдзячны таксама супрацоўнікам музея Янкі Купалы.

На пачатку сустрэчы гасцей вітаў народны ансамбль "Жарт". Музей Янкі Купалы падрыхтаваў экскурсіі "Як на свет радзіўся Янка" і "Паэзія купалаўскіх мясцін", якія праводзілі вучні гімназіі № 23 г. Мінска. Апроч таго, дэманстраваліся музейныя экспанаты — стол, за якім працаваў пісьменнік, свечкі, чарніліца, радыё.

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Мацевасян зазначыла: "Я вельмі рада, што ў падрыхтоўцы гэтай кнігі паўдзельнічаў і наш музей, і вельмі многія з малюнкаў і фотаздымкаў, што змешчаны ў ёй, захоўваюцца ў нашых фондах".

Напрыканцы сустрэчы Уладзімір Ліпскі пажадаў дзецям шанаваць беларускую мову, любіць беларускую зямлю, бо менавіта да гэтага заклікаў наш геній Янка Купала.

Ілона КУПРЭЙЧЫК

## За падзеяй

# Сустрэча даследчыкаў Бібліі

У Мінску прайшоў V Усходнееўрапейскі міжнародны сімпозіум даследчыкаў Новага Запавета.



Такі сімпозіум праводзіцца ў Беларусі ўпершыню (раней ён праходзіў у Румыніі, Балгарыі, Расіі). У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі асноўных традыцыйных хрысціянскіх канфесій, навукоўцы-біблісты з краін СНД, Заходняй, Усходняй Еўропы і ЗША. Мерапрыемства з'яўляецца сумесным праектам Беларускага экзархата, Рускай Праваслаўнай Царквы, Міжнароднага таварыства даследчыкаў Новага Запавета.

Тэма мінскага сімпозіума — "Евангельскія вобразы Госпада Ісуса Хрыста ў царкоўнай традыцыі і біблейскай навуцы". Форум скліканы дзеля таго, каб прадэманстраваць функцыю біблеістыкі ў кантэксце сучаснай універсітэцкай навукі, а таксама паказаць яе сацыяльную значнасць у краінах Еўропы.

Прафесар універсітэта Іены Карл-Вільгельм Нібур адзначыў: "Сёлетні сімпозіум — вельмі карыснае мерапрыемства ў абмене ведамі паміж усходняй праваслаўнай царквой, рымскай каталіцкай царквой і заходняй пратэстанцкай царквой".

Святочнае адкрыццё сімпозіума адбылося ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры імя Йаханэса Раў пры ўдзеле Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: прафесар універсітэта Іены Карл-Вільгельм Нібур.

Фота аўтара

## Між іншым

# Бібліятэкары — за краязнаўства

На Чэрвеньшчыне адбыліся чарговыя, 6-я па ліку, краязнаўчыя чытанні, прымеркаваныя да Дня бібліятэк. Адкрыла сустрэчу загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Галіна Ніцієўская паведамленнем: "Чэрвеньскай цэнтральнай раённай бібліятэцы — 90 год". І хоць юбілей яшчэ наперадзе, прысутным цікава было даведацца пра гісторыю стварэння бібліятэк на Чэрвеньшчыне.

Затым узяла слова Вольга Анікеева, бібліятэкар Хутарской сельскай бібліятэкі. Яна на свае ўласныя сродкі і на сродкі аднавяскоўцаў пабудавала праваслаўны храм, які пачаў дзейнічаць з ліпеня гэтага года.

Бібліятэкар Турэцкай сельскай бібліятэкі Вольга Салдаценка прадставіла даследаванне творчасці Уладзіміра Караткевіча як краязнаўцы. У Лучкай сельскай бібліятэцы працуе Таццяна Ждановіч, своеасаблівы летапісец свайго краю. Да краязнаўчых чытанняў яна падрыхтавала паведамленне пра свае землякоў.

Якія прыказкі і прымаўкі бытуюць у вёсцы Горкі, расказала Святлана Вайцяховіч. Усіх зачаравала цудоўным голасам бібліятэкар Майзароўскай сельскай бібліятэкі Зінаіда Дзмітровіч. Выступленне яе так і называлася "Песні маёй вёскі".

Краязнаўчая дзейнасць стала неад'емнай часткай работы бібліятэк Чэрвеньшчыны, сродкам адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны роднага краю.

Людміла ВОЙЦІК

## Літ-абсягі

# Рэкі жыцця Вячаслава Рагойшы

У Валожынскім раённым цэнтры культуры прайшла творчая вечарына даследчыка літаратуры, пісьменніка, доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы. Імпрэза "Рэкі яго жыцця" сталася працягам цыкла творчых сустрэч са знакамітымі ўраджэнцамі Валожыншчыны "Зямлі маёй і землякам", у межах якога ўжо прайшлі імпрэзы з удзелам паэта, галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктара Шніпа і заснавальніка Пяршайскага народнага тэатра Мікалая Ганчарыка.

Як зазначыла вядучая вечарыны, кіраўнік народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" Валянціна Груць-Русакевіч, Вячаслава Рагойшу ведаюць многія, калі не ўсе ў раёне. Вядомы беларускі крытык, таленавіты пісьменнік і навуковец, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, але найперш — адданы сын ракаўскай зямлі, любай Валожыншчыны.

Паколькі вечарына мела назву "Рэкі яго жыцця", распачалі яе са згадак пра вытокі, пра раку "Сям'я". Сам Вячаслаў Пятровіч расказаў пра сваіх бацькоў, прыгадаў дзяцінства. Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца з сынамі Вячаслава Рагойшы Усеваладам, Максімам і Пятром. У частцы "Педагагічна-асветніцкая рака" Вячаслаў Пятровіч прызнаўся, што выбару прафесіі філолага паспрыяў Адам Мальдзіс. Менавіта ён на адной з сустрэч, што праходзілі ў Ракаве, параіў паступаць не на матэматычны, але на філалагічны факультэт БДУ, і толькі на беларускае аддзяленне.

На сустрэчу завіталі калегі Вячаслава Пятровіча, выкладчыкі кафедраў тэорыі літаратуры, сучаснай беларускай літаратуры і культуры, гісторыі беларускай літаратуры. Намеснік дэкана філалагічнага факультэта БДУ Павел Навойчык заўважыў, што менавіта Вячаслаў Рагойша, яго асабісты прыклад пасадзейнічаў выбару ім прафесіі. Таццяна Шамякіна, доктар філалагічных навук, прафесар, адзначыла, што яе бацька, Іван Шамякін сябраваў з Вячаславам Рагойшам і яго жонкай Таццянай Кабржыцкай, заўсёды казаў, што гэта сям'я сапраўдных інтэлігентаў у вышэйшым сэнсе гэтага слова.

Творчы партрэт настаўніка дапоўнілі былыя студэнты Вячаслава Пятровіча Ала Макарэвіч, цяпер настаўніца беларускай мовы сярэдняй школы № 1 г. Валожына, і Таццяна Міхайлава, настаўніца роднай мовы Пяршайскай сярэдняй школы.

Вячаслаў Рагойша расказаў і пра накірункі сваёй творчай і навуковай дзейнасці. Акрамя вывучэння беларускай літаратуры, ён з'яўляецца старшынёй Міжнароднага фонду Янкі Купалы, вывучае беларуска-ўкраінскія, беларуска-польскія, беларуска-рускія літаратурныя сувязі, перакладае.

На імпрэзе прысутнічалі і прамаўлялі краязнаўца з Маладзечна Міхась Казлоўскі, паэт і даўні сябар Вячаслава Пятровіча Сяргей Панізнік, старшыня Валожынскага раённага савета дэпутатаў Марына Іода, дырэктар раённага цэнтра культуры Марына Тур, дырэктар Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Валожынскага раёна Ірына Зянько.



Не абышлася вечарына і без падарункаў. Сапраўднай нечаканасцю для Вячаслава Пятровіча сталі песні на яго вершы. Напамінам пра Валожын доўгі час будзе ручнік, вытканы ўмельцамі народнага цэнтра народных майстроў "Скарбніца" Валожынскага раённага цэнтра культуры.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: падчас вечарыны прамаўляе Вячаслаў Рагойша.

Фота аўтара

## Арт-лінія

# Госці з усіх кантынентаў

Амаль тыдзень працягваецца ў горадзе над Бугам XV Міжнародны тэатральны фестываль "Белая Вежа". Яго ўрачыстае адкрыццё адбылося ў мінулую суботу ў Вялікай зале Брэсцкага абласнога акадэмічнага тэатра драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі. У той вечар тут быў паказаны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Вяселле" паводле аднайменнай п'есы Антона Чэхава. А неафіцыйным пачаткам фэсту сталася дзённая імпрэза "Нашэсце іншапланецянаў", прадстаўленая на гарадской плошчы артыстамі са Славеніі, ды маляўнічае вулічнае шоу індыйскай групы "Акеан".



Сёлетняя "Белая Вежа", якая афіцыйна завяршаецца 18 верасня, сабрала прадстаўнікоў усіх кантынентаў — больш як тры дзясяткі творчых калектываў з 19 краін. Фестываль адбываецца ў год юбілею вялікага класіка рускай літаратуры, таму на першым плане чэхаўская тэматыка: апроч саўндрамы "Вяселле" — сумеснага праекта купалаўцаў з маскоўскім рэжысёрам Уладзімірам Панковым, — па некалькі розных пастановак такіх вядомых твораў, як "Чайка", "Мядзведзь", "Тры сястры", "Вішнёвы сад".

Арганізатары фестывалю (Міністэрства культуры Беларусі, Брэсцкі аблвыканкам, Брэсцкі абласны акадэмічны тэатр драмы імя Ленінскага камсамола Беларусі, Беларускі саюз тэатральных дзеячаў) парупіліся пра яго жанравастылёвую разнастайнасць і шырокі размах. На афішы — спектакль-розыгрыш, камічная опера, саундрама, вулічныя прадстаўленні, насычаная музыкай тэатральна-харэаграфічная пастаноўка, сінтэз традыцый і пошукаў сённяшняй акадэмічнай сцэны... Фарбы з беларускай тэатральнай палітры, сюрпрызы з Еўропы, з Расіі, экзатычныя павевы з абсягаў Венесуэлы, Аўстраліі, Індыі... І ўсё гэта не толькі ў розных залах і вуліцах Брэста, але і на пляцоўках Баранавіч, Камянца, Кобрына, Маларыты, Пінска ды Пружан.

Безумоўна, самых дасведчаных і пераборлівых тэатралаў захапляе не толькі стыхія свята, але і конкурсная інтрыга, схаваная ў яго стракатай атмасферы. Журы на чале з галоўным рэдактарам часопіса "Театральная жизнь", заслужаным дзеячам мастацтваў Расійскай Федэрацыі Алегам Піваваравым ужо хутка падвядзе вынікі прафесійных сцэнічных агледзін і назаве пераможцаў...

Лана ІВАНОВА

На здымку: дэбютант фестывалю "Белая Вежа" індыйская арт-група "Акеан".

## Повязі

# Крыніца натхнення — старажытны Кітай

Традыцыйна два разы на год Беларускае таварыства дружбы і таварыства "Беларусь — Кітай" праводзяць Дні Кітая ў Мінску. На вечарыне "Культурная спадчына Шаосіна" ў рамках Дзён Кітая, прысвечаных 61-й гадавіне ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, прысутныя змаглі пазнаёміцца з традыцыямі вытворчасці ядвабу і роспісу па тканіне ў тэхніцы батык.



Звяртаючыся да прысутных, сакратар па культуры кітайскага пасольства Чжуан Цзьянпін выказаў падзяку Беларускаму таварыству дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і Таварыству дружбы "Беларусь — Кітай" за вялікі ўнёсак у папулярызацыю кітайскай гісторыка-культурнай спадчыны ў Беларусі і паглыбленне беларуска-кітайскіх стасункаў. Кожнае такое мерапрыемства спрыяе развіццю далейшых зносін і сяброўства паміж двума народамі, упэўнены ён.

Што да горада Шаосін, то гэта адна са старадаўніх калысак кітайскай цывілізацыі. Доўгі час у Еўропе гэтую далёкую ўсходнюю краіну называлі "серэс", што перакладаецца са старажытнагрэчаскай мовы як "ядваб". Бо менавіта ў Кітаі ўпершыню авалодалі сакрэтам вытворчасці прыгожай тканіны. Паводле падання, кітайская імператрыца Сі Лін Шы 7000 тысяч гадоў таму выпадкова ўкінула кокан матыля ў кубак з гарбатай і са здзіўленнем заўважыла, што ад яго пацягнулася нітка... Вось так і ўзнікла ідэя пачаць вытворчасць цудоўнай натуральнай тканіны. За раскрыццё сакрэта ядвабу ў тыя часы можна было паплаціцца жыццём. Мастацтва яго вырабу — унікальнае. Дарэчы, у старадаўнім кітайскім ядвабе ў тры разы больш ніцей, чым у самых вядомых французскіх габеленах.

Шоўк — лёгкі, як аблокі, празрысты, як лёд. Адзенне з яго заўсёды карысталася попытам у модніц. Што і прадэманстравалі ў Доме дружбы навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа швейнай вытворчасці. Удзельнікі тэатра моды "Смелае рашэнне" паказалі, як прадстаўнікі двух народаў змаглі злучыць мастацтва роспісу па тканіне і нацыянальныя беларускі крой. Асабліва выдатна, на мой погляд, спляліся традыцыі старажытнага Кітая і талент беларускіх майстроў у калекцыі "Купалле". У даволі значных па плошчы роспісах лёгка "прачытваюцца" матывы нашай роднай прыроды.

Хочацца спадзявацца, што кожны раз, павязваючы шаўковую хусцінку, мы ўспомнім і пра цудоўны Шаосін, і пра кітайскіх майстроў, якія прынеслі праз стагоддзі і захавалі сваё незвычайнае рамяство.

Раіса МАРЧУК

На здымку: мадэлі тэатра мод "Смелае рашэнне" ў сукенках з калекцыі "Купалле".

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

У Доме літаратара пад гукі піянерскіх фанфар адбыўся святочны канцэрт, прысвечаны 20-годдзю Беларускай рэспубліканскай піянерскай арганізацыі. Прагучалі віншаванні ад прадстаўнікоў міністэрстваў інфармацыі, адукацыі, абароны, культуры, спорту, МНС, МУС, БРСМ. Шмат цёплых слоў госці і ўдзельнікі канцэрта таксама пачулі ад старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца. Затым адбылося ўзнагароджанне найбольш актыўных членаў піянерскай арганізацыі Беларусі, прагучалі справаздачы прадстаўнікоў кожнай вобласці. Напрыканцы ўрачыстай часткі выступілі ўзвод роты ганаровай варты і харэаграфічны ансамбль "Дзіця свету". Скончыўся канцэрт выступам брэйк-данс-каманды "Стрыт масцерс".

Уладзімір КУЛІЧЭНКА

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны з 15 верасня па 15 кастрычніка праводзіць конкурс мультымедыйных прэзентацый для дзяцей і падлеткаў да 17 гадоў на тэму "Вайна, якая ўвайшла ў маю сям'ю". Удзельнікам прапануецца расказаць пра лёсы сваякоў падчас вайны, іх успаміны, праілюстраваныя дакументамі, узнагародамі, фотаздымкамі і іншымі сямейнымі рэліквіямі. Расповед павінен быць прадстаўлены ў выглядзе мультымедыйнай прэзентацыі, зробленай у праграме MS PowerPoint і запісанай на дыск. Журы будзе ацэньваць як змест, так і тэхнічнае выкананне работ. Лепшыя прэзентацыі можна будзе ўбачыць на сайце музея.

С.Д.

Унікальны прыз — сто кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў у Дзень бібліятэк атрымала Навапалацкая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма. Кнігі сталіся падарункам за актыўны ўдзел у творчым праекце штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў — у бібліятэкі краіны". Падчас урачыстага мерапрыемства Вераніка Марук, вядучы рэдактар аддзела маркетынгу РВУ "Літаратура і Мастацтва", расказала пра дзейнасць і творчыя планы рэдакцыйна-выдавецкай установы, а паэт і рэдактар аддзела часопіса "Полымя" Рагнед Малахоўскі прачытаў свае новыя вершы.

Марына ВЕСЯЛУХА

Нядаўна ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна прайшло вялікае свята. Сотні людзей з Беларусі сабраліся каля Сынкавіцкай Свята-Міхайлаўскай царквы, каб сустрэць цудатворны абраз "Усецарыца" з Афона (Грэцыя), які быў асвячоны ў дваццаці манастырах і прыкладзены да мошчаў святых угоднікаў Божых. Абраз стварылі афонскія манахі і асвяцілі яго на Святой гары. Трэба сказаць, што абраз напісаны з выкананнем канонаў і асвячоны на першаабразе. "Усецарыца", унесеная ў храм, тут будзе захоўвацца пастаянна. Урачыстае багаслужэнне з нагоды сустрэчы гэтага абраза ўзначаліў епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Арцемій. "Усецарыца" — не першы абраз, напісаны афонскімі манахамі і прывезены ў Беларусь. У маі гэтага года копію цудатворнага абраза Божай Маці завезлі ў Мінск.

Іосіф ЗАЯЦ

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніку Казіміру Камейшу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю МАЦІ Ядвігі Казіміраўны.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырыя спачуванні рэдактару аддзела — члену рэдкалегіі альманаха "Вожык" Казіміру Камейшу з прычыны вялікага гора — смерці МАЦІ Ядвігі Казіміраўны.

# Прынёманне — краіна замкаў

Сёлета Гродзеншчына прадстаўляе шмат агульнарэспубліканскіх праектаў па развіцці культуры. Пра тое, якую ролю можа адыграць вопыт краю па адраджэнні цікавасці людзей да гісторыі, распавядае начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Лойка.



— Аляксандр Часлававіч, на якія гістарычныя помнікі Гродзеншчыны будзе звернута ўвага ў бліжэйшы час? Ці існуюць рэгіянальныя праграмы або планы па адраджэнні помнікаў, якія маюць гісторыка-культурную каштоўнасць?

— Хачу пагадзіцца з Уладзімірам Караткевічам, наконт таго, што "Прынёманне – краіна замкаў".

І прыемна сёння гаварыць, што замкі, якія дайшлі да нас у рознай ступені захаванасці, адраджаюцца. Завяршаюцца работы па рэстаўрацыі Мірскага замка. Адноўленым сустрэне гасцей фестывалю-кірмашу "Дажынкі" Лідскі замак.

Дзякуючы фонду "Любчанскі замак" сіламі валанцёраў адбываецца адноўленне аднайменнага замка. Пачаты работы па вырабе праектнай дакументацыі для рэстаўрацыі на перыяд XVI ст. Старога замка ў Гродне.



Міністэрствам культуры аб'яўлена грамадская акцыя па зборы сродкаў на кансервацыю Навагрудскага замка, які, бясспрэчна, з'яўляецца адным са знакавых нашых помнікаў, матэрыяльным увасабленнем значных гістарычных падзей.

Распрацавана канцэпцыя кансервацыі Гальшанскага замка. У планах — вырашэнне пытання пра кансервацыю Крэўскага.

Шырокі грамадскі рэзананс выклікала пытанне пра адноўленне Свята-Барыса-Глебскай царквы. У рамках мерапрыемстваў, прысвечаных Еўрапейскім Дням Спадчыны, 3 верасня была ўрачыста аб'яўлена акцыя "Адновім Каложу разам".

Праводзяцца работы па рэстаўрацыі царквы абарончага тыпу ў вёсцы Сынкавічы Зэльвенскага раёна і іншых аб'ектаў.

У абласной праграме "Захаванне і развіццё культуры Гродзенскай вобласці да 2010 г." існуе асобны раздзел, дарэчы, пад нумарам адзін, які ўключае мерапрыемствы па адноўленні гісторыка-культурных каштоўнасцей. І пры фарміраванні аналагічнай праграмы на перыяд 2011 — 2015 гг. у яе абавязкова будуць уключаны мерапрыемствы па адноўленні, выяўленні, захаванні і папулярызацыі гісторыка-культурных каштоўнасцей Прынёманскай зямлі. Гарадзеншчыне ёсць чым ганарыцца. Наша матэрыяльная і духоўная спадчына з'яўляецца тым падмуркам, на якім грунтуецца і развіваецца культура Панямоння і сёння, і ў будучыні.

— Якое месца, на вашу думку, займае Гродзенская абласная бібліятэка сярод устаноў культуры?

— Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага — першая публічная бібліятэка на Беларусі – мае багатую гісторыю. Сёння яна з'яўляецца вядучым інфармацыйным, адукацыйным і сацыякультурным цэнтрам, лідэрам бібліятэчнай палітыкі ў вобласці. Абласная бібліятэка забяспечвае метадычнае кіраўніцтва дзейнасцю 455 публічных бібліятэк сістэмы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Універсальным фондам бібліятэкі, аб'ём якога складае звыш 640 тыс. асобнікаў, штогод карыстаецца каля 44 тыс. жыхароў вобласці.

Бібліятэкі заўсёды аб'ядноўвалі людзей, неабыякавых да гісторыі, літаратуры. І гэта аб'ядноўвае нават прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей. Гарадзеншчына — край шматнацыянальны. І цікавы матэрыял для сябе могуць знайсці ў скарбніцы не толькі беларусы, а і людзі іншых нацыянальнасцей. Паводле звестак 37,7 працэнта жыхароў рэгіёна, альбо кожны трэці з'яўляецца прадстаўніком нетытульнай нацыі. У вобласці пражывае 87 нацыянальнасцей. Шмат палякаў. Бібліятэка імкнецца, каб літаратура была на ўсіх мовах. І мерапрыемствы праводзіцца з улікам таго, што будуць прысутнічаць людзі розных нацыянальнасцей. Супольна з Генеральным консульствам Рэспублікі Польшча ў Гродне і Саюзам палякаў Беларусі, не лічыўшы, хто што рабіў, стварылі музей Элізы Ажэшкі. Разам з бібліятэкай у польскім горадзе Сувалкі выйгралі грант Еўрасаюза. І змаглі правесці канферэнцыі па нашай агульнай спадчыне.

На сённяшні дзень у бібліятэцы прадстаўлена мастацкая і галіновая літаратура на беларускай, рускай, літоўскай, нямецкай, французскай, польскай, англійскай мовах. А даведнікі ўвогуле на 45 мовах свету! Бібліятэка наша не дае забыцца народам на іх родную культуру, мову, гісторыю.

Штогод праводзіцца каля 250 мерапрыемстваў, сярод іх — краязнаўчыя чытанні, навукова-практычныя канферэнцыі, прэзентацыі кніг і творчыя сустрэчы з удзелам пісьменнікаў Гродзеншчыны.

Пры бібліятэцы працуюць 4 літаратурныя аб'яднанні.

Лічу, што заслужанай узнагародай калектыву бібліятэкі стала спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва за значны ўклад у патрыятычнае выхаванне і арганізацыю бібліятэчнага абслугоўвання насельніцтва па выніках работы за 2008 год.

— Якія праекты, на ваш погляд, магла б рэалізаваць бібліятэка ў бліжэйшы час?

— Сумесна з польскімі калегамі мы плануем адкрыць на базе дзіцячага філіяла МульціЦэнтр, альбо адукацыйны камп'ютарны цэнтр. Асноўная мэта яго — знаёміць дзяцей і моладзь са светам навукі і тэхнікі.

Спадзяюся, што Гродзенская абласная бібліятэка больш актыўна будзе працаваць па ўстанаўленні ўзаемавыгадных адносін з іншымі бібліятэкамі і партнёрскімі арганізацыямі, будзе прымаць актыўны ўдзел у міжнародных праграмах і праектах у сферы культуры.

—Літаратуры якога характару аддаяце перавагу вы самі? Які з аддзелаў бібліятэкі наведваеце часцей?

— Я цікаўлюся літаратурай па мастацтве, у вольны час люблю чытаць кнігі гістарычнай тэматыкі, праглядаю прэсу, і, зразумела ж, захапляюся мастацкай літаратурай.

З задавальненнем наведваю ўсе аддзелы абласной бібліятэкі. Але з большай цікавасцю заходжу ў аддзел мастацтва, які стаў яшчэ адной выставачнай залай у горадзе. Тут праводзіцца выставы работ мастакоў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, творчых саюзаў, калекцыянераў, ладзіцца творчыя сустрэчы, майстар-класы і іншыя мерапрыемствы.

17 верасня 2010 года Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я.Ф.Карскага спаўняецца 180 гадоў з дня заснавання. З гэтай нагоды трэба ўспомніць высокапрафесійны калектыў бібліятэкі, які доўжыць добрыя справы сваіх папярэднікаў і стварае будучыню бібліятэкі. Жадаю бібліятэкарам, каб не знікала цікавасць людзей да кнігі, каб іх праца была заўсёды запатрабавана. Зацікаўленых і ўдзячных чытачоў ім!

Гутарыла
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

На здымку: начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама А.Лойка; Каложская царква ў Гродне.

Фота аўтара

У Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я.Ф.Карскага цяпер працуе адмысловая зала рэдкіх выданняў. У асноўным гэта выданні XIX — пачатку XX стагоддзяў.




# З вераю ў новыя дзесяць вякоў…



"Нам удалося сфарміраваць калекцыю рэдкіх выданняў, якія ёсць у Гродзенскай абласной бібліятэцы, калі сабралі кнігі з розных аддзелаў, — распавядае загадчык аддзела краязнаўства Любоў Турмасава. — У аддзеле выданняў на замежных мовах былі выяўлены кнігі ў асноўным на англійскай мовах, на польскай, нямецкай, французскай. Гэта мастацкая літаратура, галіновая. Захоўваецца калекцыя мастацкай і гістарычнай літаратуры XIX — XX стст., якая ўключае прыжыццёвыя выданні Э. Ажэшкі, Г. Сянкевіча, Б. Пруса, Ю. Славацкага, Ч. Дзікенса, А. Дзюма, Дж. Эліота.

Шмат сярод перададзенага — з аддзела выданняў на замежных мовах. Частка выданняў была ў краязнаўчым аддзеле. Гэта — у асноўным выданні Гродзенскага статыстычнага камітэта, пра якія ў "ЛіМе" пісалі раней. А іншыя кнігі мы толькі атрымалі, яны знаходзяцца, так бы мовіць, на стадыі даследавання. Выявілі найбольш каштоўныя выданні з пункта гледжання бібліятэчнага краязнаўства. Асаблівую каштоўнасць на выстаўцы ўяўляе "Слоўнік геаграфічны Каралеўства Польскага і іншых краёў славенскіх". Ёсць манаграфія пра Т. Касцюшку і выданне-каталог пра Грунвальдскую бітву. Новы погляд адкрыўся на кнігу Марыі Радзевіч — ураджэнкі Зэльвенскага раёна, польскай пісьменніцы. Гэта выданне 1900 года. Трапіла ў аддзел і адно з выданняў Адама Міцкевіча — "Пан Тадэвуш". Сярод самых каштоўных дакументаў — адзінае ў Гродзенскай вобласці факсімільнае выданне, напісаны ў канцы XV ст. "Радзівілаўскі летапіс" (СПб, 1994).

Дзякуючы намаганням і зацікаўленасці супрацоўнікаў аддзела краязнаўства за апошнія дзесяцігоддзе фонд бібліятэкі папоўніўся важкім набыткам. Гэта — двухтомнік "Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния" (СПб, 1863), манаграфія Я. Арлоўскага "Гродненская губерния" (Гродна, 1910), "Православный Софийский собор в гор. Гродно" (Гродно, 1907), "Акты, издаваемые комиссиею, высочайше учрежденною для разбора древних актов в Вильно. Т. 1. Акты Гродненского земского суда" (Вильно, 1865), "Яўрэі на Беларусі" (Менск, 1930), "Grodno" (Гродно, 1934) ды іншыя.

Тут жа, у гэтай зале, наведвальнікі бібліятэкі могуць пазнаёміцца з разнастайнымі выданнямі пра гістарычнае мінулае Гродзеншчыны вядомых мясцовых даследчыкаў — А. Пяткевіча, В. Шведа, А. Госцева, В. Чарапіцы, А. Дабрыяна, А. Смаленчука, Я. Жабруна.

У бібліятэцы захоўваюцца ўсе мясцовыя перыядычныя выданні — абласная газета "Гродзенская праўда" з 1945 года, раённыя газеты, пачынаючы з канца пяцідзесятых гадоў.

Ёсць і новы, пакуль адзіны такі ў краіне, паказальнік "Гродзеншчына ў Інтэрнэце", які змяшчае інфармацыю пра 400 сайтаў, цалкам прысвечаных рэгіёну. Складальнік — супрацоўнік аддзела краязнаўства Ганна Шарэнда. А значную працу па выяўленні сайтаў правялі вучні сярэдняй школы № 34 Яўген Лойка і Раман Пагерыла.

Асаблівую цікавасць выклікае калекцыя выданняў кніг з аўтографамі. На пачатак года іх было 191. Сярод аўтографаў адзін з самых даўніх — 1902 года: "Крестьянский вопрос Гродненской губернии в XIX столетии". Аўтограф на ім пакінуў Уладзімір Манасеін, даследчык, які працаваў у "Гродненских губернских ведомостях" і займаўся краязнаўствам. Ён уваходзіў у склад царкоўна-археалагічнага таварыства, чалавек, досыць вядомы на пачатку XX стагоддзя. Яго рукою на кнізе выведзены дарчы надпіс "Уважаемому Петру Александровичу Сорокину от автора. 1 сентября 1902 года". Але ёсць і надпісы, адрасаваныя чытачам бібліятэкі. Адзін з іх так і гучыць: "аддзелу краязнаўства…з вераю ў новыя дзесяць вякоў беларускай гісторыі".

"Аўтографы даюць імпульс працаваць усё больш плённа і натхнёна. Аўтары пакідаюць свае выданні са словамі падзякі за стварэнне такога аддзела і дапамогу ў навуковай і даследчай дзейнасці", — працягвае расповед Любоў Турмасава.

Бясспрэчна, што наведвальнікі залы — найперш краязнаўцы. Глыбокаму пазнанню гісторыі роднага краю і выхаванню пачуцця гонару за яго садзейнічаюць "Гарадзенскія чытанні": першыя (2006) прысвячаліся 230-годдзю "Газеты Гродзеньскай", 880-годдзю г. Гродна — другія (2007), трэція — "Гісторыя Гародні ў асобах" (2008), чацвёртыя (2009) — 240-годдзю Гродзенскага тэатра Тызенгаўза. Пятыя краязнаўчыя Гарадзенскія чытанні адбудуцца ў кастрычніку і прысвячаюцца яны юбілею Вітаўта.

Штогод бібліятэка выдае 20 творчых прац. Сярод іх – бібліяграфічны паказальнік "Новая літаратура аб Гродзенскай вобласці", разгорнуты аналітычны матэрыял з дадаткамі статыстычных табліц "Бібліятэкі Гродзеншчыны за … год", штоквартальны інфармацыйны біюлетэнь "З жыцця бібліятэк вобласці", інфармацыйны зборнік "У дапамогу метадысту", тэматычныя рэкамендацыйныя паказальнікі па мастацтве, "Краязнаўчы каляндар" ды іншыя.

Рына НОВАК

На здымках: выданні, прадстаўленыя на выстаўцы; з калекцыі літаратуры XIX — XX стст.

Фота аўтара
і з архіва бібліятэкі

№ 37 17 верасня 2010 г. ЛіМ

**Як слушна адзначаў у свой час С. Лем, уласна дыстопіяй варта называць толькі творы оруэлаўскага тыпу, што паказваюць ненармальнасць і выраджэнне грамадства, у якога была кепская альбо ілжыва рэалізаваная праграма. Па прычыне сваёй універсальнасці (пра гэта перадусім гаворыць адарванасць згаданага жанру ад канкрэтных часава-прасторавых каардынат) дадзеная разнавіднасць фантастычнай літаратуры імкнецца, у першую чаргу, да глыбокага асэнсавання феномена чалавека як найвышэйшай каштоўнасці і… праблемы быцця.**

# Чалавек у анатамічным зрэзе, альбо Спецыфіка сучаснай беларускай дыстопіі

Так, да даследавання адмоўнага боку вынікаў развіцця людской цывілізацыі як выразна спажывецкай звярнуўся А. Мінкін у сваім апавяданні "Карова". Твор прасякнуты песімістычным настроем, скептыцызмам у адносінах да будучыні "хома сапіенса". Створаны пісьменнікам соцыум дасягнуў апагею дэградацыі: усёабдымная весялосць да такой ступені захапіла грамадства, што жыццё на планеце ператварылася ў бясконцую карусель бессэнсоўнага смеху, дзынькання шкла і феерверкаў. Гэта і ёсць лагічны вынік стварэння людзьмі штучнага асяроддзя для свайго існавання, у якім яны больш не пакутуюць ад цяжкай працы, хвароб, голаду, гвалту, войнаў, але разам з тым страчваюць здольнасць да духоўных канфліктаў. Французскі філосаф і сацыёлаг Ж. Бадрыяр, характарызуючы дадзеную з'яву, ідэнтыфікаваў яе як "стан пасля оргіі" — непазбежнае імкненне чалавека пасля задавальнення ўсіх сваіх патрэб да пустэчы, самазнішчэння.

Сярод твораў дыстапічнага жанру адметнае месца ў сучаснай беларускай літаратуры займаюць апавяданні У. Клімовіча "Чацвёртая ад Рэгула" і "Па-за шклом скафандра".

Так, у першым тэксце У. Клімовіч распавядае пра вялікае будаўніцтва на далёкай планеце, што знаходзіцца ў сузор'і Льва. Свет, паказаны пісьменнікам, спазнаў усе вынікі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Людзі не толькі ўтаймавалі сілы прыроды, але і падпарадкавалі іх сабе, навучыліся ствараць умовы для жыцця на любой прыдатнай планеце. І на фоне чарговага "вялікага будаўніцтва" перад чытачом разгортваецца лёс смяротна хворай дзяўчынкі Эльзы. Выразнай мастацкай дэталлю, што становіцца адным з цэнтральных сімвалаў твора, выступае маленькае акно яе пакойчыка сярод шматлікіх іншых, такіх жа маленькіх. Гэта дазваляе аўтару выразней паказаць бяссілле чалавека перад агромністым светам, падкрэсліць праблему псеўдагуманізму, ахвяравання асобным чалавекам у імя чалавецтва, урэшце, сцвердзіць тыповасць сітуацыі ў соцыуме, дзе ідэалы духоўнасці саступаюць месца матэрыяльнаму дабрабыту.

У апавяданні "Па-за шклом скафандра" аўтарам уздымаецца пытанне аб заганнай сутнасці чалавечай прыроды, якая бачыцца празаіку безнадзейна нязменнай. Якімі б тэмпамі ні развіваўся тэхналагічны прагрэс, якія б высокія і светлыя мэты ні ставіла перад сабой чалавецтва — застанецца адна простая ісціна: пазбавіцца ад першабытных інстынктаў, адмовіцца ад эгаізму, сквапнасці, зайздрасці амаль што немагчыма.

Слушнасць гэтага меркавання паказваецца У. Клімовічам на прыкладзе двух герояў-касманаўтаў, якія яшчэ на Зямлі, да міжпланетнага падарожжа моцна пасварыліся з-за адной жанчыны. Каб урэгуляваць канфлікт, яны звярнуліся да паслуг псіхолага і з дапамогай гіпнозу сцёрлі са сваёй памяці прыкрае здарэнне. Але падсвядомае неўтаймаванае пачуццё варожасці абудзілася падчас касмічнай вандроўкі і стала прычынай двайнога забойства. Ні адчуванне ўласнай адказнасці, ні важны груз на касмічным караблі, які мог бы перадаць Зямлі вялікую мудрасць іншапланетных цывілізацый, не могуць заглушыць жывёльных інстынктаў, не могуць адсунуць у самыя патаемныя закуткі душы заганы, якія зневажаюць чалавечую годнасць, што і прыводзіць герояў да непазбежнай гібелі.



У святле дыстапічнай праблематыкі нельга не адзначыць і аповесць В. Гігевіча "Карабель", твор, які цалкам адпавядае лепшым традыцыям гэтага жанру мастацкай літаратуры. Вялікая ўвага ў ім надаецца апісанню чалавека ў сітуацыі татальнага пазбаўлення яго правоў на духоўнае самаўдасканаленне, забароны класічнага мастацтва і замены яго на штучную і легкадумную культуру. Адметнасць твора заключаецца ў незвычайных умовах разгортвання падзей, герметычнасці хранатопу: пісьменнік змяшчае сваіх герояў у касмічны карабель, што ўспрымаецца ўсімі яго жыхарамі як адзіная і непарушная сістэма, па-за межамі якой існаванне чалавека немагчымае.

Даследчыкамі неаднаразова трапна параўноўвалася "матэматычнае беспамылковае шчасце" (А. Свечнікава) "Карабля" з атмасферай, якая пануе ў рамане Я. Замяціна "Мы", а таксама праводзілася паралель паміж згаданай аповесцю і творамі прызнанага заснавальніка "тэатра абсурду" Сэмюэля Бэкета. Нам жа хацелася б звярнуць увагу на падабенства тэксту В. Гігевіча і твора амерыканскага пісьменніка Роберта Хайнлайна "Пасынкі сусвету", які шматлікімі крытыкамі быў названы лепшым раманам, дзе разгортваецца ідэя Ноевага каўчэга. У абодвух аўтараў дзеянне развіваецца па наступнай схеме: вялікіх памераў карабель па невядомай, а дакладней, забытай усімі прычыне пакідае Сонечную сістэму, на працягу доўгага часу рухаючыся па бязмежнай прасторы космасу. Ідуць гады, новыя пакаленні нават не ўяўляюць сабе іншага Сусвету, чым іх Зоркалёт. Але на гэтым падабенства паміж двума тэкстамі заканчваецца — Р. Хайнлайн дае сваім героям шанц разгадаць таямніцу карабля і накіраваць яго да доўгачаканай мэты, пазіцыя ж В. Гігевіча наконт узнятых у творы праблем больш песімістычная.

Беларускі пісьменнік стварае цэласную мадэль соцыуму, несумяшчальную з праяўленнямі індывідуальнага. Касмічны карабель, які стаў домам і адзіным прытулкам для Ёха, галоўнага персанажа аповесці, нагадвае па сваёй будове лесвіцу, у самым нізе якой, на першым узроўні, чалавека чакае "брудная бяздумная работа, якая адбірае здароўе і нічога не дае душы", а ўверсе, на сёмым паверсе, як на сёмым небе, — "тое, што схавана ад звычайных жыхароў Карабля", — улада, камфорт і дабрабыт. Строгая іерархічная сістэма падтрымліваецца ізаляванасцю кожнага з ярусаў. Герою В. Гігевіча дзеля здзяйснення сваёй запаветнай мары — стаць камандзірам Карабля — прыйшлося прайсці праз шэраг выпрабаванняў, падчас якіх усё больш і больш чарсцвее душа Ёха. Паступова ён становіцца адзіным цэлым з бесчалавечным механізмам кіравання людзьмі.

Ідэйна блізкім да аповесці "Карабель" з'яўляецца іншы твор В. Гігевіча — "Пабакі". Іх аб'ядноўвае сцвярджэнне праз прызму ўмоўнай фантастычнасці, тупіковасці, безвыходнасці сістэмы пазбаўлення чалавека творчай, самастойнай дзейнасці.

Завуаляваным носьбітам аўтарскай думкі з'яўляецца пацыент гарадской псіхіятрычнай бальніцы, чыімі запісамі пачынаюцца і заканчваюцца "Пабакі". На старонках дзённіка прызнанага душэўна нестабільным чалавека разгортваецца ўся складаная гісторыя Горада. Гартаючы старонкі хронікі, аўтар запісаў неаднаразова вяртаецца да пытання: няўжо кроў чалавечая, смерць, і, у рэшце рэшт, самазнішчэнне — гэта і ёсць "апошнія грозныя межы, якія могуць супакоіць устрывожанага нечым чалавека"?

Герой з жахам глядзіць на тыя вынікі, якія напаткалі чалавецтва падчас бясконцага імкнення да максімальнага задавальнення матэрыяльных патрэб. Гэта халодная тэхнагенная рэчаіснасць, у ходзе развіцця і эвалюцыі якой было страчана значэнне вартасці, індывідуальнасці кожнага чалавека з яго болем, складаным лёсам, непаўторным унутраным светам. Першапачатковая ідэя аб'яднання грамадства ў адзіную супольнасць ператварылася ў бессэнсоўнае існаванне бяздушнай шэрай масы людзей.

У цэлым, створаная беларускімі пісьменнікамі дыстапічная будучыня пазбаўлена рамантычнай ідэалізацыі і ўтапічных поглядаў на далейшае развіццё цывілізацыі. Асноўную прычыну немагчымасці рэалізаваць пэўную мадэль удасканалення грамадства аўтары бачаць ва ўласцівых людзям праблемах маральна-філасофскага плана. Але нягледзячы на гэта згаданая разнавіднасць фантастычнай літаратуры глыбока гуманістычная: яна прасякнута ўвагай да духоўнага свету асобы і шчырым хваляваннем за лёс чалавецтва.

Марына АММОН

# Пасляслоўе да будучыні

З нядаўняга часу сфера ірэальнага і фантастычнага, урэшце — малаверагоднага, займела ў літаратуры сталую прапіску, выйшаўшы з маргінальнага статусу да запатрабаванага і канкурэнтназдольнага на кніжным рынку. Выданні фантастыкі, а таксама фэнтэзі да т.п. упэўнена замацаваліся на паліцах кнігарняў, а літаратурная класіка вымушана была перапаўзаць у прыцемненыя і заціштныя куткі магазінаў, бо не адужала такога сапернiцтва. Усё гэта адбылося на нашых вачах, і варта было б задумаца над тым, што адбылося і з якой прычыны.

Навідавоку нестандартная сюжэтыка фантастычнай літаратуры, якая да таго ж мае здольнасць амаль бясконца трансфармавацца і вар'іравацца. Праз гэта вынікае і падлегласць твораў фантастыкі да "паўтаральнасці" — асаблівасці, уласцівай масавай літаратуры, ад якой пісьменнік-фантаст у ранейшыя часы хутчэй адхрышчваўся, чым прымаў. Сёння ж, як той казаў, і гэта "нармалёва": чытач праглыне і дзякуй скажа, а пісьменнік будзе доўга і сыта распавядаць пра законы камерцыі.

Зноў жа, ёсць і выключэнні, якія дазвалялі і дазваляюць заносіць фантастыку ў разрад літаратуры сур'ёзнай. Іншая справа, што ўласна паняцце "сур'ёзнай" літаратуры сёння не ў пашане і ўважаецца за рэтраградскае. Ужывеш яго — атрымаеш насмешку: маўляў, усё напісанае — ужо літаратура, ну а мае дык дакладна. Але паспрабуем не спалохацца расхожых меркаванняў: сур'ёзная фантастычная літаратура існуе (таму пацверджанне — жывы прыклад 90-гадовага Рэя Брэдберы), і толькі яна, на добры лад, мае права называцца літаратурай. А "заваленасць" латкою абумоўлена не зменамі ў свядомасці, якая бачыцца не прымае ўжо рэалістычнага, але прынцыпамі скроенасці сучаснай фэнтэзійнай і фантастычнай кнігі. Такім чынам, справа не ў псіхіцы, а ў прадукце: масавы твор працуе, як гадзіннік, і адпавядае сваім канонам: галоўнае, каб адбылася знешняя афектацыя.

У нашых беларускіх шыротах ёсць і свая школа фантастыкі, вядомая чытачам-"адэптам". Хіба толькі ў апошнія гады яна была амаль цалкам падменена рускім кніжным мэйнстрымам; зрэшты, паўнапраўнымі ўдзельнікамі апошняга сталі і аўтары-беларусы. Многія з іх пішуць на рускай мове, не шукаючы цяжкага хлеба. Тым больш ганар фантастам беларускамоўным, хоць і малалікім, але, паводле законаў існавання замкнёнай нацыянальнай літаратуры, арыентаваным хутчэй на мастацкасць, чым на рынкавы "фармат-не-фармат".

І адразу патрапляюць у поле зроку даследчыкаў. М. Аммон у шэрагу артыкулаў паказала вартасці менавіта "сур'ёзнай" фантастыкі, далучыўшы да аналізу новыя канцэпцыі разгляду фантастычных твораў, выяўленыя функцыі гэтага жанру і прымяненне іх на практыцы сучаснага future-пісьменства.

Цяпер добра было б пачуць і думку саміх "віноўнікаў" і аб'ектаў даследавання – пісьменнікаў-фантастаў. Іх разуменне і самаўсведамленне фантастычнага жанру дапоўніла б карціну, абмаляваную літаратуразнаўцай М. Аммон у цыкле лімаўскіх публікацый.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Абрысы курсівам

# Код травы

Пісаць і разважаць, а тым больш аналізаваць паэтычную творчасць аднаго са сталпоў сучаснай нацыянальнай літаратуры Алеся Разанава, справа няпростая і нязручная. Не боязь памыліцца альбо завысіць ці занізіць ацэнку яго мастацкага плёну з'яўляецца перасцярогай для рэцэнзента, а якраз небяспека быць максімальна аб'ектыўным, вывераным і дакладным у сваіх высновах, гэта значыць, упадобіцца акадэмічнаму літаратуразнаўцу — вось што павінна стрымліваць таго, хто мае сказаць сваё слова паводле ягоных слоў…

Маё добрае знаёмства з мэтрам, якое, час ад часу, перарастае ў таварышоўства, не дае мне большага права на тыя ці іншыя ацэнкі, чым само аўтарскае права — на ўласныя літаратурныя прэтэнзіі згаданаму паэту.

Разанаў скрупулёзна прачытаны мной ад першага яго вершаванага зборнічка "Адраджэнне" (1970), які, па словах аўтара, меўся быць "Адрачэннем", да вось гэтага, апошняга па часе, — "Воплескі далонёю адною" (2010). Што маю сказаць. Паэт, не зважаючы на рознапланавасць, рэформеннасць і аб'ёмны напрацаваны плён усё ж аглядны, ахопны і цэльны для чытача ва ўсёй сваёй мастацкай і творчай сутнасці. У гэтым плане — помнай поўнасці — пасапернічаць з Разанавым мог бы толькі позні Куляшоў. Чытача не павінна збіваць з тропу захопленасць А. Разанава форматворчасцю, паколькі яе змест пераліваецца і перацякае ад адной да другой з абраных ім формаў (квантэм, пункціраў, вершаказаў, зномаў) не губляючы агульнай "связующей нити". Нават верш "Лес"(1969) з дэбютнай кніжачкі , дзе "як сафізмы — ваўчакі, //баравікі — як парадоксы", развіваўся ў філасофскім кантэксце пазнейшых яго выданняў, і яго мастацкую трансфармацыю пры жаданні можна знайсці і ў гэтым зборніку апошніх пункціраў, назва якога таксама блізкая да сафістыкі (немагчымае — як немагчымыя воплескі адной далонню, за выключэннем хіба кляновага ліста). Такой, дарэчы, была і адна з першапачатковых творчых задач паэта, перафразуючы яго радок: змагчы немагчымае. Ясней і не скажаш пра высокае, тлумачачы тое ледзь не на пальцах:

Мае сябе — спявае
ручай,
а сумёт нямы.

Мне думаецца, што Разанаў ад пачатку абраў шлях — ад складанага (ірэальнага) да простага (рэальнага)… туды, дзе і павінна была б месціцца квінтэсэнцыя паэтычнага красамоўства. Памятаеце казачны сюжэт пра качку, яйка ды іголку, у якой і месцілася, калі не разгадка, дык засноўвалася ўся фабула казкі. Сам Разанаў вырашыў ісці ад адваротнага — ад іголкі (ад ключавой тонкасці). У сваіх творах ён штораз набліжаецца да той прастаты, за якой можа паўстаць новае адкрыццё (адраджэнне) ужо вядомых нам рэчаў.

Мо сто, а мо дзвесце —
Выйшлі
на вуліцу постаці,
каб увесці некага ў весніцы:
плот.

Паэт паглядзеў на цяперашнюю рэчаіснасць пад такім вуглом і паказаў відавочнае так, як мы да гэтай пары не здолелі яго ўбачыць. Звычайныя рэчы ён адкрывае знутры, ва ўсёй іх шматмернасці і складанасці, але ў той жа час знаёмымі словамі і паняццямі, хоць і рознымі спосабамі. Я заўжды дзівіўся бясконцым размовам пра "кодавасць і зашыфраванасць" паэзіі Разанава. Але хіба мы, прачытаўшы і вось гэты пункцір, не здзівімся, што самі не "заўважалі" бачнага:

Да самага воблака ўзняўся
грудок,
а траве ахвота
яшчэ вышэй.

І ўжо не так важна, ці ўдасца паэту прайсці абраны шлях да завяршэння, важней тое, што аснова гэтага шляху, паабапал якога ён паставіў умоўныя вехі, а ўсё навакольнае назваў сваімі ёмкімі імёнамі, ім пракладзена. Галоўнае (і для паэзіі таксама) не колькі ты прайшоў, а тое, што ўбачыў — не даўжыня, а шырыня і глыбіня погляду.

Апошнім часам шмат гаворыцца ледзь не пра штучна-мусовыя ўводзіны нашай літаратуры ў еўрапейскі кантэкст. Аднак, мне думаецца, што ўводзіны самой сучаснай еўрапейскай літаратуры ў кантэкст нашага нацыянальнага пісьменства задача больш важная і актуальная, бо, найперш, нам — не хапае, а не — нас. Разанаў, дарэчы, усё вартае з прышлага стараўся засвойваць (абеларушваць) і быў, па меры магчымасці, талмачом і прапагандыстам беларускага за яго межамі. Па вялікім рахунку яму згаданая праблема не замінае, паколькі ён ні пры якіх выпадках ні з аднаго кантэксту не выпадае.



Калі напрыканцы намагчыся рабіць нейкія высновы з гэтага адвольна напісанага тэксту, то сама па сабе напрошваецца параўнальная асацыяцыя з "гульнёй у класікі". Скажам, сёння, на мяне, у айчыннай літаратуры бясспрэчныя такія знакавыя, выбітна-пазнавальныя постаці беларускай паэзіі як яе пачынальнік Францішак Багушэвіч, класік нацыянальнай традыцыі Янка Купала, класік "чыстай красы" Максім Багдановіч і, насмелюся сказаць, сучасны класік-інтэлектуал , які намогся-такі праверыць "гармонію алгебрай", Алесь Разанаў. Яго неабвержныя словы кажуць больш, чым мае:

Эліта:
Лістота
ляціць — застаецца
налета лес.

ЛеГАЛ

# Нястрымная прага ачышчэння




## Нататкі пра аповесць Алеся Паплаўскага «Бонза»

Творы берасцейскага літаратара Алеся Паплаўскага насычаны болем з нагоды маральнай недасканаласці сучаснага чалавецтва. Удыхаючы сэрцам кнігі гэтага пісьменніка, мы, чытачы, вымушаны рашуча накіроўвацца ў палёт да цэнтра свайго індывідуальнага ўсясвету душы. Палёт небяспечны, бо ў цэнтры гэтым, як вядома, знаходзяцца не толькі нябёсы маёй (тваёй, яго, яе) чысціні, але і апраметная майго (тваго, яго, яе) бруду.

Боль, пра які мы вядзём размову, наўрад ці можна трактаваць толькі як праяву свядомых ініцыятыў паважанага празаіка. Перш за ўсё, у яго творах самадастаткова, субстанцыйна, па-за воляй аўтара, выказвае сябе пакута надчалавечая, надсацыяльная, якая пачала праяўляць сябе задоўга да паўстання віда homo sapiens на зямлі і працягнецца ў несканчонасці пасля таго, як і слядоў нашай цывілізацыі ў сусвеце не застанецца. У спаведальнай шчырасці персанажаў А. Паплаўскага б'ецца Божы заклік "Палюбі блізкага свайго, як самога сябе". Б'ецца, паўтараем, самадастаткова: каб любілі мы адно аднаго, дык і не доўжыў бы Усявышні свой заклік. Але вось чамусьці не любім…

Аповесць "Бонза" толькі па знешніх атрыбутах дзеяння можа быць суаднесена з рэаліямі сучаснасці. Насамрэч прадметам расповеда аказваецца адвечная супярэчлівасць чалавечай натуры як такой. Можа, менавіта таму А. Паплаўскі не робіць таямніцы з другаснасці свайго сюжэта: адкрыта развівае распаўсюджаны ў сусветнай літаратуры матыў супрацьстаяння двух персанажаў, калі адзін з іх выступае своеасаблівым "ценем" другога. У аповесці нават пададзены "адрас" паўтарэння: "Хто з нас не памятае, што здарылася з Петэрам Шлемілем, героем вядомай казкі Адэльберта Шамісо, пасля таго, як ён прадаў свой цень Д'яблу". "Цень", і гэта натуральна для такога матыву, бярэ на сябе функцыі лідэра, становіцца "бонзай" у дачыненні да таго, хто не здолеў утрымаць "цень" пры сабе. Галоўнае для "цені-бонзы" — сцвярджаць сябе коштам паніжэння кожнага сустрэчнага, ды і чалавецтва ўвогуле:

"— Ніколі і нікому, чуеш мяне, нікому не буду мыць ногі! Зразумеў? Няхай яны мне іх цяпер мыюць".

Выказванне Бонзы (пад такою мянушкаю праходзіць "цень" у аповесці) адразу прыводзіць на памяць вядомы фрагмент з Евангелля, дзе Ісус Хрыстос падчас тайнай вячэры мые ногі сваім вучням.

Чым выкліканы настолькі відавочныя сюжэтныя паралелі? Ці не таму, што няма нічога новага пад месяцам і новае — гэта добра забытае старое?Колькі мне (і вам, калега чытач) гадоў: паводле пашпартных дадзеных ці адвечнасць? Згаданыя паралелі можна растлумачыць, на наш погляд, толькі прыняўшы за аксіёму факт, што творчы працэс не двуадзіны (пісьменнік — чытач), а трыадзіны (Бог — пісьменнік — чытач). Усе ўдзельнікі гэтага трыадзінства знаходзяцца паміж сабою ў стане суперажывання, гэта значыць — ахоплены адным і тым жа пачуццём, якое ў аповесці вызначана так: "прага да ачышчэння".

Прага да ачышчэння (чытай: той самы адвечны боль, пра які размова вялася вышэй) — гэта "ключ" да аповесці "Бонза", да творчасці А. Паплаўскага, да ўсяе гісторыі чалавечай, да Божай задумы напоўніцу. Вось чаму паўстаюць у аповесці сюжэтныя паралелі. Паўстаюць самастойна як адзіна магчымая форма адчування сучаснасці праз адвечнасць. Бонза, які адмаўляецца "мыць каму-небудзь ногі", але прыхільна прымае пакланенне іншых, — увасабленне тых сапсаваных, як на сёння, "дзвярэй" у будучыню, да якіх "ключ" прагі да ачышчэння не падыходзіць… Усе мы, сённяшнія, — "Петэры Шлемілі", якія засталіся без ценю, без адпаведнага "ключа" да складанасці свету.

Усе… Ах, як хацелася б быць упэўненым, што — не ўсе, а толькі некаторыя! Прынамсі са мною, такім дасканалым, усё ў парадку? Ну і з тымі, хто мне дарагі і блізкі… Але стваральнікі аповесці (Бог і пісьменнік) такой упэўненасці мне, шматлікаму і адначасова індывідуальна непаўторнаму чытачу, не даюць. Нездарма напрыканцы твора чытаем: "Спадзяюся, што вы зразумелі, пра каго я вам расказваў. Пра каго яшчэ, як не пра сябе, можна расказаць з такой шчырасцю і падрабязнасцю. Бонза — гэта я. А я — гэта Бонза". "Мне хацелася жыць, а не выжываць". Хацелася… Дык каму б не хацелася? Але ж цяжка і балюча — жыць (у найшляхетнейшым сэнсе гэтага слова): "У краіне сляпых відушчыя павінны заўсёды быць ізгоямі. Цень — гэта наша душа. А цені, як вядома, прагнуць прысутнасці святла, а не яго адсутнасці. (…) Чалавека ў чалавеку захоўвае адзінота".

Можа, і не трэба нам згаджацца з такімі дэфініцыямі ўстрывожанага духу?

Ці насамрэч чалавека ў чалавеку захоўвае адзінота? Самотным жа ніхто не бывае, паколькі Бог усюдыісны, а гэта значыць, што Ён заўсёды з чалавекам. Але вось адчуваць роднасць (па ўзроўні пакуты) сваёй прагі да ачышчэння з такой жа прагаю Бога ў персанажы — трэба.

Юрый ПАТАЛКОЎ

# Удзячна дню, пражытаму нямарна

Заўсёды пры сустрэчы з творамі Галіны Каржанеўскай адкрываю для сябе ўсё новыя краявіды і абсягі яе творчай дзейнасці. Талент яе яркі і неардынарны. Яна з'яўляецца аўтаркай некалькіх зборнікаў паэзіі ("На мове шчасця", "Мой сад" і інш.), кніг вершаў для дзяцей ("На што падобна аблачынка", "Сінічка на балконе") і п'ес для аматараў тэатра і школьных драматычных гурткоў. Таксама Галіна Каржанеўская выступае як празаік і выдатны літаратурны і тэатральны крытык.

Калі я адкрыла першую старонку зборніка міні-п'ес "Не можа быць", мяне адразу захапілі лёгкасць і лаканічнасць яе стылю. Звярнула ўвагу на сціплае афармленне кнігі і аб'ём. Усяго 77 старонак. Яшчэ раз пераконваешся ў тым, што маленькая кніжыца бывае куды больш важкая, чым пенталогія альбо шматтомная манаграфія. Зборнік умоўна падзелены на 2 часткі — п'есы для дарослых і п'есы для дзяцей. Першыя — насычаны сцэнічнымі гумарэскамі, жартамі і вершаванымі фарсамі. У ролі дзеючых асоб выступаюць лугавыя кветкі, лясныя жыхары, птушкі. Гэта надае п'есам асаблівы шарм і незвычайнасць. Дзіўна бачыць лісу, апранутую па апошняй модзе: "Плакаць — ведай, дружа наш, — не дае мне макіяж", альбо мядзведзя, які ездзіць на "Нісане". Вельмі ўдала надзяліла характарамі аўтарка і кветкі. Да прыкладу: рамонак — памяркоўны і спакойны, трошачкі летуценны, званочак — своеасаблівае радыё, бегае і распавядае пра ўсе лугавыя навіны. Аса і Пчала паўстаюць у ролі сучасных жанчын, толькі Аса — легкадумная модніца, а Пчала — сумленная працаўніца. Характары жывёл трапна адпавядаюць іх уладальнікам. Гэта яшчэ раз можа пацвердзіць тое, што Галіна Каржанеўская адчувае чалавечую душу, спалучаючы яе з вобразам жывёл. Апошнія, як і людзі, маюць свае адмоўныя і станоўчыя якасці: ганарлівасць, лайдацтва, хабарніцтва і г.д. Калі я прачытала некалькі першых п'ес, я ўжо бачыла не лес з ягонымі жыхарамі, а сучасных людзей; не луг, а цяперашняе грамадства. У п'есе "Тота, Лята і Панура" паказваюцца адносіны сучасных хлопцаў і дзяўчат на прыкладзе ваўка Тоты і авечкі Пануры. Ярка выяўлены ўсе адмоўныя якасці маладога чалавека, цнатлівасць і сарамлівасць дзяўчыны. Апошняя "дарослая" п'еса — абразок паводле "Казак жыцця" Якуба Коласа.

Другая частка зборніка Галіны Каржанеўскай — гэта п'есы для дзяцей. Пачынаецца яна сцэнічным абразком для батлейкі паводле "Казак жыцця" Якуба Коласа з лаканічнай назвай "Збан". Дзеянне разгортваецца вакол сірочай долі вясковага хлапчука Юркі, які страціў маці, і адзіны, хто разумее яго, — цётка Тэрэза. Яна дапамагае хлопцу не згубіцца ў шэрасці і адзіноце, дорыць яму сваю пяшчоту і любоў. Фінал які і з'яўляецца мараллю п'есы, — сон Юркі. Казка "Як птушкі дуб ратавалі" вучыць рабіць добрыя справы, не забываючыся на пачуццё меры. Гумар і фантазія робяць п'есы зразумелымі і лёгкімі для ўспрымання дзецьмі. Яшчэ адна адметная рыса — яны адразу бачацца на сцэне, а пры ўдалым падборы касцюмаў і рэквізіту можна было б нават выклікаць аншлаг у тэатральных залах.

Кацярына ДЗЕМЯНЧУК



## Юрый ФАТНЕЎ

### Чорная кашуля

Я чорную кашулю зашываю —
Не трэба мне, не трэба мне другая...

Яе адзену — ўсё пачну спачатку,
Няхай сабе сарамеюцца латкі.

Сарочка, гэта чорная сарочка, —
Чарней, чым цемра самай чорнай ночы.

Я мыў кашулю кожны панядзелак,
Але жыццё ніколькі не свяцлела.

Сарочка, гэта чорная сарочка, —
Чарней, чым цемра самай чорнай ночы.

І хоць было мне часта ўсё няміла,
Навекі ў ёй запомніўся я мілай.

Чакала, што прыйду ў кашулі белай,
Але на мне лепш чорная сядзела.

Цяпер няма з кім бавіць час вячэрні —
Адна кашуля засталася вернай.

Сарочка, гэта чорная сарочка, —
Чарней, чым цемра самай чорнай ночы.

Я чорную кашулю зашываю —
Не трэба мне, не трэба мне другая...

Пераклад з рускай
Міхася Башлакова

* * *

Белым кветам акацыя
Прасвятляе наскрозь.
Не магу дачакацца я,
Ды чакаю чагось.

Можа, ранняга вечара,
Мо кахання праз край,
Можа, славы нявечнае,
Што чакай не чакай?..

Мне ўсё лепшае мроіцца
У жыццёвай сяўбе.
Так, паверце, і хочацца
Ўслых прызнацца сабе:

Ўсё, чаго дачакацца я
Так хачу зноў і зноў, —
Гэта толькі акацыя
Ў белай квецені сноў.

* * *

Гэта песня ціхая, светлая, харошая.
Кружыць галаву маю нейкі дзіўны хмель.
Быццам ад шампанскага...
Толькі дзе ўзяў грошы я?
Мне, безганарарнаму, дзе знайсці рубель?

Гэта песня ранняя, чыстая, бялюткая,
Быццам з лесу цёмнага выйшаў на лугі
І ў святле рамонкавым маладжу мінуткі я...
Толькі дзе ж рамонкі ўзяў?..
Навакол — снягі.

Гэта песня лёгкая, простая, шчымлівая
Саграває сэрца мне, бы ў салодкім сне...
Толькі што ж я радасны,
што ж такі шчаслівы я,
Калі сцеле любая ложак, ды не мне?!.

### Напаўголаса

Намалюю хатку я, хатку з аканіцамі
Пад бярозай белаю, пад вярбою ніцаю,

Што ў жыцці не стрэліся
ў дні мае прыветныя —
Толькі ў сны з'явіліся светлыя-найсветлыя.

Што са мной ні здарыцца,
не пайду ў бальніцы я —
Пасялюся ў хатцы я,
хатцы з аканіцамі.
Сяду я на лавачцы, пагляджу да вечара,
Як у сіняй далечы
серабрыцца рэчанька.

Быццам бы прывязаны да яе ніцінаю...
О Расія-матухна! Песня нелюдзімая!..

Намалюю хатку я, хатку з аканіцамі
Пад бярозай белаю, пад вярбою ніцаю...

Пераклад з рускай
Міколы Шабовіча

### Расквечаны блакіт

Калісь не ведаў стомы,
А сённа — справы дрэнь.
Яму ў лясных хоромах
Блукаць бы цэлы дзень.

Сярод п'янкога бору
На травы ўпасці ніц...
Лісічкі спяць па норах.
Аж чорна ад чарніц.

Калі ж пад свіст птушыны
Дзень сыдзе у нябыт,
Ён прынясе адзіная
Расквечаны блакіт.

Яна абдыме кветку
І да яго хутчэй.
І заіскрыцца зведка —
Блакіт яе вачэй.

Згадаюць пра вячэру...
І цішыцца нябыт,
Пакуль жывая вера
Ў расквечаны блакіт.

Пераклад з рускай
Таццяны Выскваркі



## Віктар ВАБІШЭВІЧ

### Любілі людзі прыгажосць

З часоў сівых, дагістарычных
Любілі людзі прыгажосць —
У песнях грозных і лірычных,
У міфах, што прывозіў госць.

Любілі так як мы, крыніцы,
Матывы песняў ручая,
Легенды мудрай чараўніцы,
Начныя трэлі салаўя.

Любілі чыстае каханне,
Малюнак мілы, мудры ўзор,
І кветак дзіўных красаванне,
І ўбору ўласнага дэкор.

Свет аднаўляўся ў прыгажосці:
Прыгожы дзень — прыгожы век.
І па жыцці ў няспынным росце
Ішоў прыгожы чалавек.

І ў век да крыўды празаічны
Сцвярджае ўпарта маладосць:
З часоў сівых, дагістарычных
Любілі людзі прыгажосць.

### Жаўранак у небе

Ты высока недзе —
паспрабуй убачыць;
Кропкай абазначыў там цябе анёл
І трымае ў небе, каб збудзіў удачу
І настрой узнёслы абуджаў вакол.

Песня твая льецца
над усім абшарам,
Над шырокім лугам,
нават за ракой.
І няма ўжо месца воблакам і хмарам,
Вецер прытаіўся, і ў кустах спакой.

Ты каму спяваеш, жаўранак,
— прызнайся.
Людзям? Кветкам?
Хвалям? Сонечнаму дню?
Можа, твая песня пчолам на папасе
Дорыць асалоду, ласку, цеплыню?

Мне сказаць не хочаш,
жаўранак нястомны.
Не кажы — не трэба.
Ты для ўсіх спявай!
Хай гучыць бясконца
шчыры спеў нязломны —
Над прасторам родным.
І на ўвесь наш край.

* * *

Мне ў лесе дрэвы шэпчуць словы
Пра вечны бег свайго жыцця,
І той аповед адмысловы
Знаходзіць недзе свой працяг.

Мне дрэвы шчыра расказалі
Пра свой зямны, звычайны лёс,
Пра спеў жыцця і момант жалю,
Пра ўсё, што дзень з сабой прынёс.

Я навучыўся ў дрэвах мудрых
Прымаць надобрае ў жыцці —
Праз цемру зла і холад тундры
Умець разважліва прайсці.

Мне шчыра дрэвы шэпчуць словы
Пра бег дзівоснага жыцця —
Аповед мудры, адмысловы
У вершах знойдзе свой працяг.

* * *

Стомлены, змакрэлы, сумны клён
Прывітаў вандроўніка-паэта.
За зімой імкнецца наўздагон
Поўнае свята і сонца лета.

А паэт шукаў прасветлы свет,
Дзе заўжды ідылія і цнота,
Шчыра свой праносіў запавет.
Час для падрахункаў — адзінота.

Поўны хараства будзённы дзень:
Кропелька дажджу, сняжынка, вецер.
Сілы неўтаймоўнае агмень.
Добраму заўсёды ўтульна ў свеце.

Вера неадольная ў вачах —
Квеценню ўбіраюцца камені.
Чысты і шчаслівы лёс і шлях.
Боскія цудоўныя Стварэнні.



Фота Кастуся Дробава



## Сяргей МАЛЯЎСКІ

### Легенда пра Валожын

Зямля мая! Ты без канца і краю
Нам наталяеш прагу да жыцця.
Пасля зраўняеш правых і няправых,
Прымаючы да вечнага быцця...

Шумяць дрымучыя пушчанскія аблогі,
Ступае грузна прыпацелы конь.
Спускаецца з пагорка у валогу*
Перадыхнуць і распаліць агонь
Ваяр, паранены ў страшнай сечы
За свой народ, за маці і сяброў,
Каб вораг беларусаў не знявечыў
І больш не піў святую нашу кроў.

Струменіць рэчка
звонам серабрыстым,
Нагой не кранутыя дыван травы,
Спяваюць птахі у бары вячыстым,
Плывуць высока ў небе жураўлі...

Паклаў свой шчыт
на затравелым грудзе,
Кальчугу скінуў з анямелага пляча,
Вадой абмыў знясіленыя грудзі,
Дзе ныла рана ад крыжацкага мяча.
Павісла ноч на стромкіх вершалінах,
Сава не будзіць крыкамі гушчар.
Спакой бароняць сосны і яліны,
Каб ачуняў паранены ваяр.

На бераг выйшла прыгажуня з лесу
З купальскай дзіўнай кветкай у руцэ...
У цішыні лясной шчарбаты месяц
Ўсю ноч адзін купаўся ў рацэ.
Дзяўчына воіна да раніцы не будзіць,
А толькі сонца вейкі узняло,
Хлапцу паклала папараць на грудзі —
Крывавай раны быццам не было!

Пасля, па-над валогай, на па-ўзгорку
З дзяўчынай сталі хату будаваць.
Назваў Валожынкай ён
прыгажуню-зорку,
Валожынам той кут
стаў называць...

Сягоння, пэўна, ўжо не зведаць, кім
Быў першы камень
пад вугол паложан,
Але з тае пары, і праз вякі —
Жыве, працуе
слаўны наш Валожын!
Ты быў! Ты ёсць!
Ты будзеш на зямлі!
Адыдзем мы, народзіцца нам змена,
Каб прадаўжаць, што продкі пачалі,
І прымнажаць з калена у калена!

### На сядзібе Ясеніна

Гарачынёй смяецца лета.
Паветра плавіць цішыня.
Упершыню мясціна гэта
Мяне сустрэла. Зеленя,
Што апяваў паэт калісьці,
Стаяць у святаснай журбе.
Зямля Разані, ты калыскай
Яму была. Паклон табе!
Паклон табе,
Што ўзгадавала,
Ускарміла ад сваіх грудзей,
Што столькі таленту давала,
Любві вучыла у людзей.
Іду, хвалюючыся, у сені
Вясковай хаты. Кожны кут
Яе быў сведкам, як Ясенін
Радкі пра Русь выношваў тут.

Не, не былога гэта цені.
Яны і сёння сярод нас,
Такія, як Сяргей Ясенін...
Не робіць іх былымі час!

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

17 верасня 2010 г.

Выпуск 14



Беларусь з'яўлялася ганаровым госцем прадстаўнічага кніжнага форуму. Гэтая акалічнасць наклала, відавочна, асаблівую пячатку і на падрыхтоўку да выстаўкі ўсімі айчыннымі выдаўцамі, і на тое, з якім настроем працавалі беларускія кніжнікі ў Маскве. З 1 па 6 верасня беларускія стэнды у 75 павільёне ў зале Усерасійскага выставачнага цэнтра не маглі не прыцягваць увагу літаральна тысяч і тысяч цікаўных да кнігі наведвальнікаў. Можна сказаць і інакш: прыцягвала ўвагу сама краіна Беларусь.

## Значнай падзеяй для айчыннага кнігавыдання стала XXIII Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-ярмарка

# Прастора для будучыні

У Маскву прадставіць сваю прадукцыю, прэзентаваць навінкі прыехалі кіраўнікі, супрацоўнікі амаль сарака беларускіх выдавецтваў рознай формы ўласнасці. Дэлегацыю ўзначаліла першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

Усе дні работы на выстаўцы паказалі, што фармат знаёмства з новымі выданнямі не быў бы такім дастойным, калі б не намаганні галоўных арганізатараў і выканаўцаў многіх ініцыятыў па падрыхтоўцы знаёмства з кніжнай Беларуссю — ААТ "Белкніга" і выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Менавіта іх арганізацыйныя, вытворчыя высілкі спрыялі нармальнай рабоце на выстаўцы іншых калег. Да ўсяго астатняга "БелЭн" дастаткова актыўна знаёміла маскоўскіх кніжнікаў, гасцей сталіцы Расійскай Федэрацыі са сваімі выданнямі апошняга часу.

А ўвогуле праграма XXIII ММКВЯ дазволіла розным выдавецтвам шматаблічна расказаць пра кнігі, прадставіць будучыя планы. Спрыяла гэтаму і выключная арганізаванасць, высокі ўзровень папярэдняй падрыхтоўкі. 1 верасня быў прысвечаны Дню ведаў. Увагу наведвальнікаў прыцягнула мультымедыйная прэзентацыя кнігі "Беларусь — наша Радзіма. Падарунак Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі першакласніку", знаёмства з "Энцыклапедыяй для школьнікаў і студэнтаў" (прэзентаваўся першы том "Інфармацыйнае грамадства. XXI стагоддзе").

А тым часам прадстаўнічыя дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі, РВУ "Літаратура і Мастацтва" на чале са старшынёй СПБ Мікалаем Чаргінцом удзельнічалі ў "круглых сталах", арганізаваных у рэдакцыях часопіса "Наш современник" і "Литературной газете". Беларускую і рускую літаратуру, літаратурна-мастацкую перыёдыку дзвюх краін яднаюць не толькі даўнія творчыя стасункі, але і многія сённяшнія супольныя праекты. Пра гэта і ішла размова ў рэдакцыях вядомых расійскіх выданняў, на чале калектываў якіх — аўтарытэтныя пісьменнікі Станіслаў Куняеў і Юрый Палякоў.



На другі дзень выстаўкі заўважнай падзеяй стала прэзентацыя факсімільных выданняў духоўна-асветніцкага праекта "Вернутыя каштоўнасці" выдавецтва Беларускага Экзархата. Варта заўважыць, што падрыхтаванае гэтым калектывам "Слуцкае Евангелле" (дарэчы, экзэмпляр яго быў перададзены Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы) з'яўляецца падзеяй увогуле для духоўнага жыцця праваслаўнай Беларусі. Сапраўды, руплівыя кніжнікі на чале з Уладзімірам Грозавым вярнулі для грамадства ўнікальную каштоўнасць, святло ад якой будзе спрыяць новым усенародным здзяйсненням і здабыткам. Сярод удзельнікаў XXIII ММКВЯ на беларускім стэндзе вылучаўся калектыў, аб'яднаны праектам выдавецтва "БелЭн імя Петруся Броўкі", — гісторык Аляксандр Каваленя, мастак-каліграф Павел Семчанка, кніжны графік Генадзь Мацур, загадчык аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі Мікола Нікалаеў. Асобы яркія, вядомыя ў культурнай, навуковай прасторы Беларусі, ды і Расіі таксама, яны знаёмілі расіян з выданнямі "БелЭн". Найперш — з энцыклапедыяй "Вялікае Княства Літоўскае" (шкада, што цяпер так мала пішуць пра гэты трохтомнік. Як па ранейшым часе — з яго выданнем адбылася ўнікальная падзея, што застанецца ў гісторыі беларускага кнігавыдання на стагоддзі!), "Гісторыяй беларускай кнігі" (выдадзены пакуль што першы том), іншымі Кнігамі. Так, Кнігамі з вялікай літары. І ўсе яны — грамадскія партнёры энцыклапедычнага выдавецтва, сапраўдныя генератары многіх і многіх ідэй, якія ажыццяўляе выдавецтва "БелЭн".

Дарэчы, другі дзень выстаўкі для беларускай дэлегацыі быў Днём Рэспублікі Беларусь. Выдавецтва "Мастацкая літаратура" прадставіла чытачу кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Алеся Марціновіча "Герб, Сцяг, і Гімн беларускай дзяржавы". Дызайн выдання, мастацкае афармленне належыць вядомаму кніжніку Канстанціну Хацяноўскаму.

Заўважным быў удзел у рабоце беларускага стэнда Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі. Па-першае, усе наведвальнікі маглі пазнаёміцца са старадрукамі са збораў галоўнай бібліятэкі нашай краіны. Можна толькі ўявіць, з якімі складанасцямі была звязана іх дастаўка ў Маскву. А яшчэ ж шырокі розгалас выклікаў факт дарэння лепшых кніг Рэспублікі Беларусь Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы. А Нацыянальная кніжная палата Беларусі заключыла дамову аб супрацоўніцтве са сваімі расійскімі калегамі. Усе згаданыя і іншыя крокі партнёрства дастаткова выразна сведчаць пра тое, што без пашырэння стасункаў у культурнай прасторы немагчыма прадставіць развіццё кніжнай справы ў Беларусі. Відавочна, такія кантакты ў сваю чаргу патрэбны і нашым суседзям. Невыпадкова, што адзін з дзён так і называўся — Дзень Садружнасці. У кніжнай справе Беларусі рэалізоўваецца безліч ідэй, якія падтрымлівае Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Невыпадковым госцем на беларускім стэндзе быў і дзяржсакратар Павел Барадзін. Прыняў ён удзел і ў прэзентацыі кнігі Маршала Савецкага Саюза Дзмітрыя Язава "Гурцьеўцы: Ад Омска да Берліна", якая прысвечана аднаму са знакамітых воінскіх злучэнняў, франтавой біяграфіі славутай 120-й Рагачоўскай дывізіі. Зараз гэты воінскі калектыў — у складзе Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.

Заўважнымі на выставе былі многія мерапрыемствы, наладжаныя выдавецтвам "Пачатковая школа". Адметна, што прэзентаваліся не толькі адукацыйныя праекты. Сімпатычнай падзеяй сталася знаёмства з кнігай Навума Гальпяровіча і Наталлі Ванінай "Полацк — Бацька гарадоў беларускіх", якою выдавецтва адкрыла серыю "Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі", адрасаваную дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Прывезла ў Маскву "Пачатковая школа" і кнігі доктара філалагічных навук Віктара Іўчанкава "Беларуская арфаграфія: апавяданні і гісторыі" і "Беларускі правапіс у апорных схемах". Дарэчы, з боку многіх наведвальнікаў выстаўкі выяўлялася шчырая зацікаўленасць кнігай на беларускай мове, творамі класікаў нацыянальнай літаратуры. І тады ў адказ на запыты гаспадары стэнда дружна адрасавалі ўсіх найперш да паліц з кнігамі "Мастацкай літаратуры".

Дастаткова прадстаўнічай была на выстаўцы дэлегацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі. Разам з Мікалаем Чаргінцом у многіх прэзентацыях, аўтограф-сесіях прынялі ўдзел Наталля Голубева (яе тры гісторыка-мастацкія кнігі заваявалі высокую папулярнасць, імі цікавіліся і чытачы, і выдаўцы з іншых краін), Сяргей Трахімёнак, Алесь Марціновіч, Тамара Краснова-Гусачэнка, Валянціна Паліканіна, Раіса Баравікова, Славамір Антановіч, Юрый Сапажкоў, Алег Ждан і іншыя.

…Цікавасць выстаўкі, яе значэнне — у шырокіх магчымасцях для знаёмства з кнігай апошняга часу. Дзясяткі расійскіх выдавецтваў прадставілі новыя альбомы, мноства дзіцячых кніг. Насычанай была выстаўка на праваслаўную літаратуру. І літаральна кожная з кніг — урок на будучыню, падстава для пошукаў у афармленні, праектаванні і беларускіх кнігавыдавецкіх ініцыятыў.

Кастусь ЛАДУЦЬКА,
спецыяльны карэспандэнт
г. Масква




На здымках: дзяржсакратар Саюза Расіі і Беларусі Павел Барадзін і Маршал Савецкага Саюза Дзмітрый Язаў; Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Васіль Даўгалёў зачытвае прывітанне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі; на выстаўцы-ярмарцы Беларусь прадставіла больш як сорак вядучых выдавецтваў і паліграфічных прадпрыемстваў.

## Унікальныя выданні




"Як мастак Георгій Паплаўскі сфарміраваўся ў атмасферы шасцідзесятых гадоў і з тых часін захоўвае вернасць мастацтву праўдзіваму, дэмакратычнаму, адкрытаму трывогам і надзеям свайго часу", — так пачынаецца расповед пра народнага мастака Беларусі, нашага сучасніка ў альбоме "Рамантык сурова стылю" (Мінск, выдавецтва "Чатыры чвэрці", 2010). Аўтар кнігі — спадарожнік Георгія Георгіевіча па жыцці, яго дарадца і самы шчыры рэцэнзент Наталля Паплаўская.

# Мастак і яго час



Праўда, у яе ў сааўтарах і тыя мастацтвазнаўцы, пісьменнікі, журналісты, якіх у розныя дзесяцігоддзі захапляла, цікавіла і працягвае цікавіць творчасць яркага майстра. Згадаем хаця б некаторых: Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Мікалай Ганчароў, Барыс Крэпак, Эма Пугачова, Рыгор Астроўскі, Алег Сурскі… І ўсё ж галоўны аўтар, чалавек, які спраектаваў альбом, выклаў перад чытачом выразную канцэпцыю прачытання творчасці жывапісца, графіка, мастака кнігі, — Наталля Паплаўская. Перад намі нават не альбом, а кніга-сінтэз, у якой прадстаўлены не толькі красамоўныя рэпрадукцыі, а яшчэ і падрабязны расповед пра лёс майстра, яго творчыя вандроўкі па Беларусі і іншых краінах свету. А яшчэ ж — і бібліяграфія, храналогія выставак.

І нельга не пагадзіцца з наступнай думкай: "Альбом… з'яўляецца найбольш поўным даследаваннем біяграфіі таленавітага і творча актыўнага мастака. Ён, безумоўна, стане навуковым матэрыялам для мастацтвазнаўства, гістарычных архіваў, бібліятэк, кіраўніцтвам для музейных супрацоўнікаў і навучальных установ Беларусі". Хіба што варта дадаць і тое, што альбом, прысвечаны Г. Паплаўскаму, — яшчэ і вандроўка ў часе, сустрэча з рознымі краінамі і народамі свету.



Народны мастак Беларусі, правадзейны член Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, правадзейны член Расійскай акадэміі мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Джавахарлала Неру, Георгій Паплаўскі з самага пачат-



ку творчай біяграфіі выявіў сябе актыўным збіральнікам мастацкіх і жыццёвых уражанняў. У 1963 годзе мастак едзе ў Казахстан, рыхтуе серыю маляўнічых і графічных работ "Паўночны Казахстан". У 1965-м — паўгадовае плаванне на рыбалавецкім судне ў Атлантыцы, з заходам на Кубу, порт Гавана. Як вынік — персанальная выстаўка "Атлантыка…" У 1967-м завяршае цыкл лінагравюр "Казкі і легенды Палесся", якія нарадзіліся з этнаграфічных паездак па палескіх вёсках. 1970 — уражанні ад паездкі ў Індыю афармляюцца ў цыкл "Індзійскі дзённік". У Маскве праходзіць аднайменная персанальная выстаўка.



А яшчэ ж — Мексіка, краіны Еўропы, Расійская Поўнач… І галоўнае — Віцебшчына ваколіцы Браслава.

Старонкі кнігі ўражваюць, бяруць у палон. Як, між іншым, і апошні раздзел — "Мастацтва кнігі". Вось што піша Наталля Паплаўская, прадстаўляючы свайго героя як кніжнага ілюстратара: "Працуючы над кнігай, Паплаўскі пазбягае ўзроўню выключна афармлення ў межах павярхоўнага ўспрымання вызначанага сюжэта. Ілюструючы, ён стварае свой паралельны аповед, умацоўваючы калізіі, прапанаваныя аўтарам, а часам настолькі паглыбляе і ўскладняе выяўленчае ўспрыманне вобраза і драматургіі твора, што дапамагае тэксту, калі ён да ўсяго ж ардынарны ў літаратурным плане.

Гэтая схільнасць да павялічанай ілюстратыўнай актыўнасці прывяла яго ў кагорту мастакоў-станкавістаў, калі ад вызначанага аўтарам зместу графік сыходзіць у сваю ўласную свабодную і самастойную інтэрпрэтацыю". Добра гэта ці дрэнна?.. Каб адказаць на пытанне, трэба быць яшчэ і ўважлівым чытачом "адкрытых" мастаком кніг. І ўсе, нават з альбомнага "прачытання", ілюстрацыі ўражваюць. Адна з першых кніг, афармленых Георгіем Паплаўскім, — "Славен город Полоцк" (Мінск, 1962 год). За гэтую работу мастак атрымаў дыплом II ступені Усесаюзнага конкурсу на лепшыя выданні. З таго часу плён працы Г. Паплаўскага як кніжнага графіка адзначаўся неаднойчы. І сапраўды, ілюстрацыі да твораў Я. Коласа, А. Адамовіча, У. Караткевіча можна разглядаць як самастойныя работы.

Відавочна, што разам з творчай інтуіцыяй першым памагатым кніжнага графіка з'яўляецца яго скрупулёзнасць у засваенні тэмы. Невыпадковым падаецца выказванне Васіля Быкава з гэтай нагоды: "На працягу нядоўгага часу Г. Паплаўскі праілюстраваў некалькі маіх аповесцяў, стварыўшы цудоўную графічную серыю, прысвечаную складаным перыпетыям барацьбы савецкіх воінаў і партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны. Я думаю, што гэтыя яго работы можна разглядаць як самастойныя і самакаштоўныя творы выяўленчай этыкі. Яны абуджаюць уяўленне і надаюць асаблівае натхненне ў літаратурнай працы."

Асобным разваротам у альбоме прадстаўлены ілюстрацыі апошняга часу — да кнігі "Прарок" Халіля Джэбрана (Мінск, РВУ "ЛіМ", 2010 год). Углядзьцеся ў іх — і вам абавязкова, па волі мастака, давядзецца ўжо адкрыць кнігу з паэмай ліванскага мысляра, перастораную на рускай мове Юрыем Сапажковым. І не толькі дзеля таго, каб пераканацца ў суладнасці мастака і паэта, а хутчэй дзеля таго, каб пайсці і далей шляхам адкрыццяў. Шляхам, на які нас настройваюць увогуле старонкі альбома "Рамантык суровага стылю", укладзенага, зробленага Наталляй Паплаўскай, альбома, які засведчыў і яе ўласную захопленасць і любоў.

Мікола БЕРЛЕЖ

## Пад вокладкай
















1. Боровикова, Р.А. Сад на шляпке возлюбленной: любовная лирика / Раиса Боровикова. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 64 с.

Паэзія Раісы Баравіковай ужо даўно ў беларускай літаратурнай прасторы ўспрымаецца як прыклад увасаблення сапраўднай жаноцкасці, лёгкасці, але не легкадумнасці. Асабліва калі гаворка ідзе пра інтымную лірыку. Выбраныя вершы пра каханне ў перакладзе на рускую мову І. Катлярова, Р. Раманавай, Ю. Сапажкова, Г. Куранева і іншых увайшлі ў новую кнігу Раісы Андрэеўны.

2. Разанаў, А.С. З апокрыфа ў канон: гутаркі, выступленні, нататкі / Алесь Разанаў. — Мінск: І.П. Логвінаў, 2010. — 138 с.

Алесь Разанаў — бясспрэчны гуру беларускай філасофскай паэзіі. Але не толькі паэзіі. Яго крытычныя "Нататкі на дубовых лістах", створаныя ў 1982 годзе, і сённяшнія ўспрымаюцца як прыклад беларускай крытыкі, не той, што толькі аналізуе твор, але выходзіць на больш шырокія абагульненні. Інтэрв'ю, якія запісвалі з паэтам у розныя часы Галіна Шаблінская і Анатоль Івашчанка, таксама дапамагаюць дапоўніць творчы партрэт Разанава.

3. Гальпяровіч, Н., Ваніна, Н. Полацк — бацька гарадоў беларускіх / Навум Гальпяровіч, Наталля Ваніна. — Мінск: Пачатковая школа, 2010. — 96 с.

Першае выданне серыі кніг для школьнікаў "Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі" заканамерна прысвечана самаму старажытнаму ў краіне гораду Полацку. У кнізе распавядаецца пра мінулае і сучаснасць, эканоміку і культуру, літаратурнае жыццё места, знакамітых палачан. Яркае і маляўнічае выданне — якраз такое, як і любяць дзеці, — багата ілюстравана малюнкамі (дзіцячымі) і фотаздымкамі. Кніга можа стацца добрым пачаткам, штуршком да больш глыбокага вывучэння мінуўшчыны краю.

4. Брестская крепость. Война и мир / автор концепции и текста А. Суворов. — Брест: Полиграфика, 2010. — 256 с.

Кніга прысвечана гісторыі Брэсцкай крэпасці і падзеям, звязаным з ёй. Аповед, які аб'ядноўвае гістарычную хроніку і даследаванні, шырокім палатном ахоплівае перыяд з пачатку XIX ст. да нашых дзён. Падрабязна расказана пра этапы будаўніцтва і мадэрнізацыі крэпасці, вірлівыя падзеі першай паловы мінулага стагоддзя. Асобнае месца займае гераічная абарона крэпасці ў 1941 годзе. Кніга насычана дакументамі і багата ілюстраваная. Многія матэрыялы, сабраныя ў ёй, унікальныя і друкуюцца ўпершыню.

5. Тофилд, Саймон Кот Саймона / Саймон Тофилд. — Москва: Гаятри / Livebook, 2009. — 240 с.

Кніжны (ці хутчэй коміксавы) варыянт мультфільма пра ката Саймана з пункту гледжання сюжэту і герояў — больш складаны. Але ў той жа час і сам галоўны герой, кот, і яго паводзіны застаюцца нязменнымі. З такім катом знаёмы кожны. Ён, як і ўсе звычайныя занадта энергічныя каты, просіць і адмаўляецца есці, спіць, мяўкае, гуляе са смецием, дзеліцца злоўленай мышшу з гаспадаром. Працяг знакамітага мультфільма на паперы выкананы ў нестандартным фармаце (па памеры як нэтбук), зроблены ў форме «альбома з малюнкамі» (на старонках няма нумароў і паліграфічных лічбаў). Выданне — добры падарунак усім, каму падабаюцца мультфільмы і коміксы.

З кнігамі знаёміла Марына ВЕСЯЛУХА

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by

# Згадкі з дзяцінства, пра буслоў і іншае



Іван КАРЭНДА

Іван Карэнда нарадзіўся 17 верасня 1950 года ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Па прафесіі — настаўнік і журналіст. Працаваў у школе, рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", у Міністэрстве інфармацыі, у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў. На вершы І. Карэнды беларускія кампазітары напісалі больш за 30 песень. Вядомы і як празаік. Аўтар аповесці "Воплаўская госця", шэрага апавяданняў і эсэ. Творы перакладзены на рускую, балгарскую і іншыя мовы.

* * *

Лепшае, што прыйшло ў беларускую вёску за апошні час, — тэлефонная сувязь. У большасці сельскіх населеных пунктаў яна была і раней: у канторы, школе, ФАПе, клубе, краме, на ферме. Але ў прыватным парадку тэлефоннымі апаратамі карысталіся лічаныя вяскоўцы. Званкі чуліся толькі ў хатах кіраўнікоў і функцыянераў мясцовай улады — калгасных брыгадзіраў і спецыялістаў, сельсавецкіх служачых, школьнага начальства.

Цяпер "алёкаюць" нават вясковыя пенсіянеры. Што і казаць, тэлефон для састарэлых людзей, асабліва адзінокіх, – бясспрэчная выгода. Не выходзячы з хаты, можаш даведацца пра здароўе ў брата ці сястры, якія жывуць у другім канцы вёскі, ці прывезлі ў сельмаг хлеб. Зручна заказаць па тэлефоне газавы балон, запісацца на прыём да ўрача раённай паліклінікі.

Сёння сёй-той з вяскоўцаў носіць у кішэні і мабільнік — модны і вельмі карысны падарунак дзяцей-гараджан. Прызвычаіліся браць яго з сабою на поле і луг. З ім не баяцца заблудзіцца ў лесе, ходзячы па грыбах ці збіраючы ягады.

Ёсць тэлефон і ў маёй роднай хаце. І я ўжо не памятаю, калі пісаў маме ліст. Цяпер няма крыўды і папрокаў: "Рэдка пішаш…"

Аднойчы мама сказала: "Калі б не тэлефон, то я, можа, ужо і не жыла б… Лягчэй з ім! Асабліва ў зімовую самоту, калі амаль не выходзіш з хаты. Бывае, што за дзень на вуліцы ніводнай жывой душы не ўбачыш. І тады рука цягнецца да трубкі…"

Добра, што вёска атрымала, нарэшце, хоць нешта, вартае яе ролі і заслуг. Шкада толькі — з вялікім спазненнем. І ўсё ж — лепш пазней, чым ніколі.

* * *

Вадзіцель масквіч-тамбовец распавядае:

— Ужо дваццаць гадоў мінула, як пакінуў вёску. Я выехаў з яе, а яна з мяне — не. Вось тут сядзіць, — б'е кулаком сабе ў грудзі і, цяжка ўздыхнуўшы, працягвае: — А вяртацца ўжо няма куды: маю вёску знішчылі, зруйнавалі. 30 хат закапалі ў зямлю. А якія яблыкі былі! — і сёння помніцца, як пахне сапраўдны апорт…

— Чарнобыльскім цэзіем была засыпана? — пытаюся, згадваючы пра горкую долю шматлікіх беларускіх вёсак.

— Ды не! Які там цэзій!.. Дзякаваць Богу, гэтая чорная бяда да маіх родных мясцін не дайшла. Вёска загінула, калі мы бяздумна пакінулі яе. А пустыя хаты раструшчылі бульдозерам. Цяпер там поле. Быццам зямлі ў нас пад ворыва не хапае. На маёй Тамбоўшчыне тысячы гектараў палеткаў зараслі кустоўем, хоць чарназём – тоўшчай на метр, не меней… Не, гарадскім я не стаў… І дажываць свой век паеду куды-небудзь у вёску. Цягне туды, як магнітам. Водар свежаскошанай травы ў маскоўскім парку за вярсту казыча мне нос…

І мне казыча…

* * *

— Калі я была маленькая, то думала, што лялькі — жывыя, толькі засушаныя, — дзеліцца ўспамінамі мая васьмігадовая ўнучка:

— А што думаеш пра іх цяпер? — цікаўлюся, са спадзяваннем на эвалюцыю дзіцячага светапогляду.

— Цяпер я ведаю, што яны з пластмасы.

— Але ж і пластмасавыя размаўляюць, рагочуць, плачуць, — спрабую запярэчыць малой.

— Яны ж на батарэйках, дзядуля! — падсумоўвае нашу размову Аліса.

…Выказванне ўнучкі пра "засушаныя" лялькі чамусьці доўга не выходзіла з маёй галавы. Пазней да мяне дайшоў яго глыбокі філасофскі сэнс: жыццё, у рэшце рэшт, засушвае і нас, жывых людзей.

* * *

Сусветна вядомая зорка расійскай опернай сцэны Вольга Гуракова, з выдатным, непаўторным сапрана, у інтэрв'ю на старонках часопіса прызнаецца: "Я нават прабачэння прасіла ў Пятра Ільіча Чайкоўскага! Вельмі перажывала, таму што ўсё ў гэтым спектаклі было пастаўлена з ног на галаву". Так яна распавядае пра свой удзел у пастаноўцы "Яўгенія Анегіна" ў Баварскай оперы, дзе рэжысёр Кшыштаф Варлікоўскі дадумаўся ўручыць ёй (Таццяне Ларынай) дыктафон, апрануць гераіню XIX стагоддзя ў джынсы. Ліст яна пісала не на паперы, а нагаворвала на дыктафон. Пры гэтым сцягвала з сябе джынсы, расшпільвала блузку…

Во разгул фантазіі! Такую Таццяну Ларыну чуць і бачыць і я не хацеў бы.

І ўвогуле — інтэрпрэтацыя класічных твораў не ведае ніякіх межаў. Рэжысёры-эксперыментатары прыдумваюць часам такое, што ад творчай задумкі аўтара-класіка застаюцца "рожкі ды ножкі".

Крытыкі глядзяць на гэты здзек скрозь пальцы, а то яшчэ і падахвочваюць нікчэмную рэжысуру, называючы яе "сучасным поглядам на класічны твор", а па сутнасці патураючы элементарнаму ашуканству нас, слухачоў і гледачоў, бо мы ідзём у тэатр менавіта на класіку.

Класічнае таму і класічнае, што заўсёды — сучаснае. Няўжо няўцям гэтая простая ісціна?

* * *

Яшчэ адна згадка пра "нашых" буслоў.

Мы з мамай з трывогай чакалі пачатак вясны 2009-га: папярэдняя была нешчаслівай для нашых буслоў. Яны, руплівцы, прыляцелі тады першымі з усёй буслінай чародкі, якая аблюбавала крывіцкія прасторы, — на тыдні два раней. Іх звонкі клёкат на таполі сведчыў пра змену пары года.

Аднак — ці вясна нясмелая, марудная была, ці зіма, з норавам злой свякроўкі, не спяшалася ісці на прымірэнне з прыродай — нечакана вярнулася зімовая сцюжа. Гняздо засыпала снегам, і бедным птушкам прыйшлося ў такую слоту цяжка. Яны, мабыць, замерзлі так, што па гэтай прычыне дзетак у тое лета не мелі.

Сумным было развітанне з імі перад адлётам у вырай.

Нас непакоіла пытанне: ці прыляцяць зноў?

Прыляцелі!

А калі мы ўбачылі, што з гнязда падымаюць галоўкі-дзюбкі двое няўрымслівых буслянят, наша радасць была бязмежнай…

* * *

Даўнейшае, з пары дзяцінства і маладосці, успамінаецца часцей. Мабыць, таму, што на пачатку жыцця ўражанні ад убачанага і пачутага глыбей пранікаюць у душу, а памяць — больш цікаўная да ўсяго, што адбываецца навокал, і больш учэпістая.

…Вось перад вачыма праплывае малюнак першага "купання".

Нёман у гады майго маленства напрадвесні разліваўся так, што вада падступала да крайніх вясковых хат, а аднойчы, у 1958-м, нават павыганяла з іх людзей. У час паводкі, на тры-чатыры тыдні, заставалася адзіная сувязь са светам — дабірацца на "чайцы" (так у нас называюць аднавёсельную лодку) да суседняга Морына, напрасткі болей як два кіламетры, па небяспечнай воднай прасторы.

Памятаю, я яшчэ не хадзіў у школу, — маме па нейкай пільнай патрэбе неабходна было наведацца ў райцэнтр, гарадскі пасёлак Іўе (статус горада ён набыў пазней). І яна паплыла на "чайцы" з нашымі вясковымі людзьмі да Морына. Маршрутных аўтобусаў тады яшчэ не было, і адтуль у Іўе звычайна дабіраліся пешкі або на падводах.

Я ведаў, што без гасцінцаў з вандровак мама дамоў ніколі не вярталася. І самымі жаданымі былі цукеркі-падушачкі.

…Перада мною — мора вады. Я з надзеяй пазіраю ўдалячынь, на высокі морынскі бераг. А мамы ўсё няма…

І я пабрыў насустрач…

Далёка ад берага, відаць, не забрыў. Спалохаўшыся, пачаў крычаць…

Мой крык пачулі вясковыя падлеткі і кінуліся на дапамогу, выцягнулі з вады, занеслі ў хату.

Помніцца, як мяне, скарчанелага, трэсла і падкідвала ледзь не пад столь ад холаду і дрыжыкаў, як нацiралі мяне першаком, абкладвалі падушкамі і накрывалі коўдрай…

Бог ўратаваў тады неразумнае дзіця, якому вельмі-вельмі хацелася цукерак-падушачак.

А пра цукеркі-падушачкі ўспамінаю з асалодай не адзін я – усё маё пакаленне памятае гэтае смакоцце.

* * *

Прысніўся сон пра школу. Дакладней, пра маё вяртанне на школьную працу. У тую самую Ракавіцкую сярэднюю школу Шчучынскага раёна, дзе я калісьці, амаль чатыры дзясяткі гадоў таму, выкладаў родную мову і літаратуру.

Прыгожы сон: вялікая, поўная дзяцей, школа; класы-кабінеты з сучаснымі метадычнымі дапаможнікамі і найноўшымі тэхнічнымі сродкамі; разумны, талковы дырэктар у асобе маладой абаяльнай жанчыны; нарэшце, — я ў добрым настроі, энергічны, з вялікім жаданнем перадаваць вучням свае веды…

Прачнуўшыся, успамінаю, што менавіта з такім настроем і з такім жаданнем я прыехаў у Ракавічы ў жніўні 1971-га. Пасля заканчэння педінстытута ніякіх іншых планаў, акрамя настаўніцкай працы, у мяне не было. Дзеля гэтага марыў сабраць, мець уласную бібліятэку, каб заўсёды пад рукой была патрэбная кніга. І яшчэ — вельмі хацелася, каб хутчэй прыехала да мяне ў школу маладая настаўніца матэматыкі, якая тады была яшчэ студэнткай…

Як мяняе, перайначвае жыццё нашы планы! Хоць, зрэшты, мне наракаць на долю грэх — мары той пары спраўдзіліся: і сямейная бібліятэка ёсць, і з той самай настаўніцай матэматыкі ідзём па жыцці разам…

Вось толькі ў школе мне папрацаваць давялося нядоўга. Лёс павёў па іншых сцежках-пуцявінах…

Сон не толькі абудзіў успаміны, а і нарадзіў жаданне ажыццявіць даўно задуманае: наведаць Ракавіцкую школу.

Якая яна сёння? Ці захавала статус сярэдняй агульнаадукацыйнай установы? Ці існуе ўвогуле?..

Мой прыгожы сон неўзабаве атрымаў жаданы працяг у рэальным жыцці: праз два тыдні — сонечным суботнім днём 1 жніўня 2009-га — я прыехаў у Ракавічы з маім даўнім сябрам Анатолем Чашчэвікам, кіраўніком адной з гаспадарак раёна, які, дарэчы, не адзін год працаваў і дырэктарам школы ў Шчучыне.

Доўгая пабыўка не выпадала. Ды і лета — не лепшы час для наведвання школы. Але мне хацелася хоць пабачыць яе, прайсціся па вёсцы.

…З хваляваннем выходжу з машыны. Перад школьным будынкам — зыркія клумбы-дываны кветак. І, як ні дзіўна, — дзверы школы расчынены. А шыльда над імі пацвярджае, што фармальных змен не адбылося: і сёння — гэта сярэдняя школа. Нясмела пераступаю парог…

Злева, на першым паверсе, як і ў гады майго настаўнічання, кабінет дырэктара. Чытаю-знаёмлюся: Пазняк Іван Вітальевіч.

Паварочваю галаву направа — каля лесвіцы кідаецца ў вочы мітусня і чуецца розгалас: ідзе рамонт школы, працуюць жанчыны. Прашу ў іх дазволу падняцца на другі паверх, дзе калісьці была настаўніцкая.

Бачу — праз увесь калідор — адчыненыя ў кожны клас дзверы. Адчуваецца моцны пах фарбы — памяшканні праветрываюцца пасля малярскіх работ. Тут, здаецца, ужо ўсё гатова да новага навучальнага года. Заходжу ў адзін з класаў, кідаю позірк на класную дошку, яна большых памераў і іншай формы, чым раней. Здзіўляе і настаўніцкі стол, такіх у наш час не было, цяпер ён — як прафесарская кафедра, на ўзвышшы. Для настаўніка, безумоўна, зручна, бо яму трэба бачыць адначасова ўвесь клас, кожнага вучня.

Ад школьнай працы на ўсё жыццё засталася ў мяне звычка выступаць стоячы, каб бачыць усіх прысутных, і таму на пасяджэннях розных "круглых сталоў" мне прамаўляць, нават коратка, заўсёды цяжкавата. Аднак на гэты раз я прысеў, акінуў позіркам пусты, прасторны клас. Перад вачыма паўсталі вывы-твары маіх колішніх вучняў… Я заплюшчыў вочы, але прыгадаць, узнавіць у памяці змог нямногіх: класаў у тую пару было шмат, з чацвёртага па дзясяты — па два паралельныя, усе поўнакамплектныя. Цеснавата было ў школе…

Спускаюся на першы паверх, а тут ужо чакае дырэктар: ці то перадалі яму пра няпрошанага госця, ці, можа, дзесьці быў непадалёк і сам заўважыў.

Знаёмімся. Распытваю пра сённяшнюю школу. Аказваецца, дырэктар — яе выпускнік. Толькі вучыўся ў ёй крыху пазней — гады на чатыры пасля таго, як тут працаваў я. Самае прыемнае, што пачуў ад яго, — новы навучальны год у школе пачнуць 137 вучняў…

Выходзім на вуліцу. Насупраць школы бачу футбольнае поле, дзе я калісьці ганяў мяч са сваімі вучнямі…

А сама вёска пакінула сумнае ўражанне. Нягледзячы на новыя сацыяльныя аб'екты, што з'явіліся пасля майго ад'езду, той дынамікі вясковага жыцця, якая была тут на пачатку 1970-х, ужо няма. Сіратлівыя хаты, падворкі і сядзібы…

І яшчэ адно назіранне: у асяродку жыцця ў Ракавічах, акрамя школы, засталася царква. Куды ні вучні, ні настаўнікі у той час не заходзілі – нават паглядзець на цудадзейную Ракавіцкую ікону Божай Маці, якая знаходзіцца ў гэтым храме.

Духоўнае — з глыбокімі, моцнымі каранямі — сілкуе жыццё лепш, чым хуткаплыннае матэрыяльнае.

У школы і царквы — розны духоўны статус, розныя абавязкі перад грамадствам. Але ідуць яны адной дарогай — у будучыню.

* * *

Перачытаў "Один день Ивана Денисовича" А. Салжаніцына.

Падштурхнула да гэтага навіна: расійскія асветнікі вырашылі ўключыць у школьную праграму вывучэнне яшчэ аднаго твора пісьменніка — "Архіпелаг ГУЛАГ". Думаю, ні настаўнікам, ні школьнікам такое рашэнне радасці не прынясе: шматтомнае выданне, кніга-даследаванне палітычнай гісторыі таталітарнай сістэмы, нават з мастацкай афарбоўкай, — не для ўрокаў літаратуры.

А вось аповесць пра адзін дзень лагернага жыцця Івана Шухава я ў школьнай праграме пакінуў бы: твор дае невычэрпны матэрыял для асэнсавання ўсёй жорсткасці бальшавіцкай дыктатуры, і, галоўнае, ён вельмі карысны як падручнік для выжывання чалавека ў невыносна цяжкіх умовах, выхавання годнасці асобы, загартоўкі яе маральных якасцей.

* * *

Дзівакоў сярод нас, здаецца, становіцца больш. Маскоўскі скульптар Г. Патоцкі стварыў Міжнародную акадэмію дабрыні. А сімвалам дабрыні лічыць дзьмухавец. Яго помнікі дзьмухаўцу ўжо ўстаноўлены ў многіх краінах свету.

Ды мне чамусьці думаецца, што Міжнародная акадэмія дабрыні створана Богам…

А на Беларусі, калі выбіраць сімвал дабрыні з кветак, то гэта, пэўна ж, быў бы васілёк. Васількі, валошкі ў нас – на якое поле ні пайдзі…

* * *

Колькі чалавеку патрэбна грошай? Недарэчнае, на першы погляд, пытанне. Бо адказ на яго падаецца простым: як мага болей. Але ж багаты і шчаслівы чалавек — паняцці, якія супадаюць рэдка. Грошы, як аднойчы слушна заўважыў Валянцін Распуцін, павінны рабіць добрыя справы, "працаваць" так, каб ад іх карысць чалавеку была. А калі яны проста выкідваюцца дзеля таго, каб хтосьці пачуваўся багацеем, падкрэсліваў сваю перавагу перад іншымі людзьмі, то які ад гэтага толк?

Не было і не будзе закона, колькі мець чалавеку грошай. Адсюль — адвечны канфлікт паміж матэрыяльным і духоўным, які вельмі часта вядзе да разладу ў душы. Нішто так не абцяжарвае, не выводзіць яе з раўнавагі, як грашовая праблема, — і нястача грошай, і залатыя горы багацця.

Фінансавыя дэфолты і сацыяльна-эканамічныя крызісы адбываюцца тады, калі грашовая раўнавага ў грамадстве парушаецца, калі адны не ведаюць, куды падзець сваё багацце, а другія — як звесці канцы з канцамі, выжыць у сваім безграшоўі.

Першым спектаклем новага сезона ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі стала прэм'ера сёлетняга года — "Набука". Оперны шэдэўр Джузэпе Вердзі прываблівае нашых сучаснікаў бляскам новага ўвасаблення (як вядома, адной з прынцыповых задач рэжысёра-пастаноўшчыка Міхаіла Панджавідзэ быў максімальны паказ выразных тэхнічных магчымасцей сцэнічнага комплексу рэканструяванага тэатра ў спалучэнні з асноватворнымі традыцыямі жанру). А ўражвае — узрушальным тэмпераментам, закладзеным у гэтай неўміручай партытуры, глыбокімі музычна-псіхалагічнымі характарыстыкамі галоўных герояў, напалам пачуццяў, выказаных у партыі аркестра, магутным "жывапісам" харавых сцэн... Аднак не спектакль "Набука", пра які гледачы і крытыкі загаварылі яшчэ пры канцы мінулага сезона, трапіў у цэнтр увагі музычна-тэатральнай публікі на пачатку "аксамітнага" верасня. Аб'ект асаблівай цікавасці з'явіўся нечакана, стаўшыся сапраўдным сюрпрызам для беларускіх сяброў оперы і балета: глянцавы часопіс! У Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра цяпер ёсць сваё перыядычнае выданне...



# Хто ў «Партэры»?

## Глянцавы пачатак аксамітнага сезона

Выданне, заснавальнікам якога з'яўляецца наш Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, зарэгістраванае ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь пад нумарам 1385. Звярніце ўвагу на даты: факт нараджэння часопіса пацвярджае рэгістрацыйнае пасведчанне ад 9 жніўня 2010 года, а менш як праз месяц, 6 верасня, атрымаўшы з друкарні "Поликрафт" важкі тыраж — 5 тыс. асобнікаў! — тэатр прэзентаваў свой новы праект сталічным журналістам. Акурат напярэдадні адкрыцця сезона.

Што ж, давайце знаёміцца. Культурна-асветніцкі, даведачны штомесячны часопіс "Партэр", створаны па ініцыятыве НАВТ оперы і балета Беларусі, — унікальны праект у гісторыі самога тэатра і адзінае на прасторы СНД выданне такога кшталту. Ідэя яго стварэння, як патлумачыў генеральны дырэктар НАВТа Уладзімір Грыдзюшка ў звароце да чытачоў (ім адкрываецца першы, датаваны вераснем 2010 года, нумар) і падкрэсліў падчас прэзентацыі, грунтуецца найперш на актуальнасці адлюстравання гісторыі і сучаснага жыцця вялікага творчага калектыву:

— Наш тэатр мае найбагацейшую гісторыю, сатканую з бліскучых імёнаў спевакоў і танцоўшчыкаў, рэжысёраў і харэографаў, дырыжораў і музыкантаў, пра якіх часопіс раскажа на сваіх старонках. Штомесяц мы будзем знаёміць чытачоў з тэатральнымі навінамі, нашай афішай, архіўнымі матэрыяламі, з унікальнымі асобамі. Тэатральная гісторыя ствараецца многімі прафесіяналамі, імёны якіх часта не гучаць публічна: мастакамі-дэкаратарамі, грымёрамі і касцюмерамі, інжынерамі, механікамі. З імі таксама можна будзе сустрэцца ў нашым выданні, даведацца пра некаторыя прафесійныя сакрэты. Плануем распавядаць пра творчыя дынастыі нашага калектыву. Гледачоў ва ўсе часы хвалявала таямнічае жыццё за кулісамі, па той бок сцэны — пра гэта мы пастараемся распавесці, скарыстаўшы магчымасці сучаснага фотамастацтва. Ёсць таксама намер змяшчаць у часопісе лібрэта спектакляў бягучага рэпертуару. Вялікі тэатр Беларусі вельмі малады ў параўнанні са старэйшымі тэатрамі свету. Але дзякуючы беларускім артыстам, якія ззялі і ззяюць на сусветных сцэнах, дзякуючы ўнікальным пастаноўкам, наш тэатр арганічна ўпісваецца ў еўрапейскую і сусветную культуру. Таму на старонках часопіса мы, безумоўна, будзем вандраваць па ўсім свеце — чытачы змогуць віртуальна наведаць знакамітыя тэатры, пазнаёміцца з вялікімі постацямі ў гісторыі оперы і балета, даведацца пра самыя свежыя падзеі і новыя імёны ў музычна-тэатральным асяроддзі.

Шчодра ілюстраваныя, прыгожа зверстаныя 64 старонкі плюс глянцавая вокладка, на якой анансуюцца асноўныя матэрыялы ("Жалезная мадам. Каралева Брытанскага балета"; "Два дзесяцігоддзі "Царскага палявання". Са скарбніц беларускай музычнай гісторыі"; "Кіеўскі мадэрн. Харэаграфія Раду Паклітару"; "Вечныя сімвалы. "Набука" на беларускай сцэне"; "Жыццё ў мастацтве. Юрый Траян пра музыку цела"; "Парад прэм'ер. Сусветныя сцэны адкрываюць новы сезон") — так выглядае першы нумар "Партэра". У разгары праца над наступнымі двума выпускамі. Паводле слоў Мікалая Дзмітрыева, дырэктара закрытага акцыянернага таварыства "СПН-медиа", якое з'яўляецца выдаўцом, і галоўнага рэдактара Яўгена Каменкі, рабіць такі часопіс нялёгка, вялікая адказнасць і за яго далейшы лёс. У планах — зрабіць "Партэр" разы ў чатыры таўсцейшым, больш цікавым, багацейшым на інфармацыю, а тыраж узняць да 10 тысяч. Накont сённяшняй структуры часопіса Яўген Каменка сказаў так:

— Першы блок матэрыялаў прысвечаны розным тэмам з гісторыі опернага і балетнага мастацтваў, у тым ліку беларускай. Другі — падзеям, што адбываюцца на сусветных падмостках. У трэцім блоку распавядаецца пра тое, што ў бліжэйшы час прапануе публіцы наш НАВТ оперы і балета. Змешчаны таксама рэпертуарны каляндар на наступны месяц. Тэксты не толькі рускамоўныя, ёсць і на беларускай мове. А мова англійская скарыстаная з тым, каб часопіс можна было распаўсюджваць па дыпламатычных каналах, сярод іншаземных турыстаў; магчыма, ім зацікавяцца ў оперна-балетным асяроддзі замежжа. У адрозненне ад іншых музычна-тэатральных выданняў, якія існуюць на рынку прэсы СНД, і ад часопіса "Мастацтва", вядомага ў творчым асяроддзі Беларусі, "Партэр" не разлічаны на вузкіх спецыялістаў ці дасведчаных, адукаваных аматараў. Гэта выданне для самых звычайных людзей, якія хацелі б атрымаць інфармацыю са сферы музычнага тэатра, ці патэнцыяльных гледачоў, якія, скажам, ніколі не наведвалі оперныя спектаклі, а, пагартаўшы наш часопіс, зацікавіліся б і вырашылі ўпершыню схадзіць у Вялікі тэатр. Таму мы стварылі "аўтарскі сімбіёз": матэрыялы пішуць як супрацоўнікі тэатра, найперш яго рэкламна-інфармацыйнага аддзела, так і журналісты-рэпарцёры. Грунтоўных акадэмічных, навуковых тэкстаў вы тут не знойдзеце.

Вядома, самы першы нумар усё-ткі — "пробнік", які нельга лічыць вызначальным для далейшага аблічча выдання, аднак яго пачынальнікі пачулі некалькі прынцыповых заўваг ад калег-журналістаў. Напрыклад, наконт нявызначанасці ў прыярытэтах: маўляў, калі часопіс "пра нас", чаму акцэнт зроблены на падзеях за мяжой, пра якія айчынны чытач можа даведацца з Інтэрнэта, а замежны — са сваіх "першакрыніц"? Або наконт стылёва-сэнсавай неахайнасці: усё-ткі нельга, нават у якасці прынады для гледача-неафіта, прадстаўляць "Хаваншчыну" як "рускі оперны блокбастэр"...

Стваральнікі новага часопіса ўпэўненыя, што ў хуткім часе ён будзе рэалізоўвацца не толькі ў самім тэатры перад паказам спектакляў, але і праз кіёскі "Саюздруку"; што яго відавочны (і, акзаваецца, наўмысны) "глянцавы" ўхіл, які выклікаў заўвагі і нават нараканні музычных журналістаў, прысутных на прэзентацыі, прывабіць грашавітых рэкламадаўцаў. А значыць, "Партэр" вызначыцца не як іміджавы, а як самаакупны і нават паспяховы, прыбытковы камерцыйны праект.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Уладзімір Грыдзюшка прадстаўляе часопіс "Партэр".

Фота аўтара

# Усе ўзросты падуладныя

Перайначыўшы паэтычны афарызм класіка, можна сказаць, што тэатру, як і каханню, падуладныя ўсе ўзросты. Тым больш, калі глядач з маленства ўлюбёны ў свой тэатр, а тэатр з любоўю працуе для гледачоў розных пакаленняў. Але які ж тэатр не стараецца гэтага рабіць! На самых славутых акадэмічных сцэнах акцёры разам з рэжысёрамі ды мастакамі хоць зрэдчас, але ў ахвотку, працуюць над спектаклямі для дзяцей. Ну, а для артыстаў-лялечнікаў мастацтва, адрасаванае дзятве, — аснова творчага жыцця. Праўда, гэта не замінае ім стварaць адмысловы рэпертуар і для дарослай публікі. Беларускі дзяржаўны тэатр лялек, той самы ўніверсал, якому ўсе ўзросты падуладныя, распачынае свой 72-і сезон адразу дзвюма прэм'ерамі. Сёння, 17 верасня, будзе паказаны новы спектакль для дарослага гледача "Драй швестэрн" рэжысёра Аляксея Ляляўскага, які разам з мастаком-пастаноўшчыкам Таццянай Нерсісян арыгінальна інтэрпрэтуе матывы п'есы Антона Чэхава "Тры сястры". А 19 верасня — прэм'ера для маленькіх: казка Артура Вольскага ды Петруся Макаля "Марынка-Крапіўніца" ў рэжысуры Аляксандра Янушкевіча, у афармленні мастака Валерыя Рачкоўскага, з музыкай у выкананні гурта "Стары Ольса"...

Зрэшты, пра новыя прэм'еры сталічных лялечнікаў у нас будзе асобная размова. Цяпер жа — колькі слоў пра яшчэ адзін універсальны сталічны калектыў, Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача, які сустрэнецца са сваімі прыхільнікамі праз тыдзень.

Свой 55-ы сезон артысты ТЮГа, як вядома, распачынаюць "у прымах": з 2007 года родны будынак — на рэканструкцыі, для паказу спектакляў выкарыстоўваюцца розныя пляцоўкі, у тым ліку — Дом літаратара. Менавіта на яго сцэне адбудзецца першы спектакль сезона — "Тарас на Парнасе" паводле п'есы Сяргея Кавалёва. На думку драматурга, паэму "Тарас на Парнасе" можна лічыць візітоўкай беларускай паэзіі XIX стагоддзя, а самога Тараса — параўнаць з Цілем Уленшпігелем Шарля дэ Кастэра і Кала Бруньёнам Рамэна Ралана, "бо ён з'яўляецца яскравым увасабленнем нацыянальнага характару, тыпу беларуса". А вось "Тарас на Парнасе", зусім адмыслова перачытаны аўтарам п'есы і затым увасоблены ў сцэнічнае відовішча рэжысёрам-пастаноўшчыкам Наталляй Башавай, мастаком Ларысай Рулёвай, балетмайстрамі Віктарам Бескараваўным ды Аленай Іваньковай, з натхнёнай ігрой акцёраў, з каларытнай музыкай у выкананні вядомых гуртоў "Стары Ольса" і "Ліцвіны", — гэты "Тарас на Парнасе" зрабіўся візітоўкай сённяшняга ТЮГа.

Тэатралы памятаюць: з сярэдзіны 1990-х, падчас мастацкага кіраўніцтва незабыўнага рэжысёра Андрэя Андросіка, калектыў пачаў працаваць пад дэвізам "Тэатр юнага гледача — наш сямейны тэатр". Мэтай было абуджаць увагу дзяцей і падлеткаў да выбітных твораў айчыннай і сусветнай літаратуры, драматургіі, падтрымліваць цікавасць да ТЮГа ў старэйшых пакаленняў сямейнікаў нароўні з дзецьмі... Сёлета ў тэатр прыйшоў новы мастацкі кіраўнік — Уладзімір Савіцкі, вядомы сваімі пастаноўкамі на розных драматычных сцэнах краіны. Пад якім дэвізам будзе ажыццяўляць ён творчую палітыку ў тэатры? Пра гэта чытачы "ЛіМа" даведаюцца з нашых наступных публікацый.

Лана ІВАНОВА



На здымку: сцэна са спектакля Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача "Тарас на Парнасе".

Фота з інтэрнэт-сайта тэатра

## Радуемся разам

**Шыкоўная імпрэза** пад назвай "Белы канцэрт", да якой спрычыніліся многія сотні прысутных у Вялікай зале Палаца Рэспублікі, і тысячы тэлегледачоў, сталася для меламанаў сапраўдным падарункам на Дзень горада Мінска. Зоркі сусветнай велічыні Анжэла Георгіу ды Марыус Манеа спявалі ў суправаджэнні Лонданскага філарманічнага аркестра. Гучалі сольныя нумары і дуэты, папулярная аркестравая класіка: Вердзі, Штраўс, Легар, Пучыні... Музыканты ўразілі публіку і выкананнем Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь.

**Фестываль** ізраільскага кіно, зладжаваны Пасольствам Дзяржавы Ізраіль у Беларусі ды мінскім кінатэатрам "Цэнтральны", прайшоў у нашай сталіцы. Кампактная і ёмістая праграма дала гледачу магчымасць за тры дні пазнаёміцца з лепшымі кінадрамамі 2006 — 2009 гадоў, адкрыць для сябе імёны такіх выдатных акцёраў, як Бар Бельфер, Двір Бандак, Міхаэль Машонаў, убачыць дасягненні ізраільскіх кінадакументалістаў.

**Сённяшні вечар** у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры збярэ сяброў, прыхільнікаў і калег заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Анатоля Лапунова. Анатоль Максімавіч у розны час працаваў за дырыжорскім пультам і гэтага тэатра, і НАВТ оперы і балета Беларусі, супрацоўнічаў практычна з усімі музычнымі калектывамі Беларусі, а таксама кіраваў сімфанічным аркестрам Белтэлерадыё, падрыхтаваў і запісаў у фонд нямала цікавых твораў. Маэстра, якому 15 верасня споўнілася 70, адзначае свой юбілей вялікай і разнастайнай канцэртнай праграмай з удзелам салістаў БДАМТа.

**Тэма горада** блізкая Ігару Сухарукаву таму, што ў горадзе ён нарадзіўся і вырас. Вучыўся ў мінскай школе-ліцэі № 26 пры БДАМ, у самой акадэміі атрымаў прафесію



дызайнера і скончыў аспірантуру. У 2004-м І. Сухарукаў перамог на Усерасійскім он-лайн конкурсе акварэлі, зладжаваным знанай Школай Сяргея Андрыякі. "Праз прыгажосць архітэктурных формаў і матываў, рытміку вуліц і адлюстраванне асаблівага эмацыйна-псіхалагічнага настрою, спалучыўшы ў жывапісных прыёмах элементы рэалізму і сучаснага мастацтва з уласцівай для акварэлі лёгкасцю і свабодай, я хачу данесці да гледача ўсю эстэтыку гэтай улюбёнай для мяне тэмы", — шчырасць такога прызнання мастака адчулі наведвальнікі яго нядаўняй выстаўкі "Акварэль. Гарадскі пейзаж" у Сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

**Чэмпіён свету** па сучасным інструментальным выканальніцтве — такое званне заваяваў наш баяніст Павел Неўмяржыцкі на Міжнародным чэмпіянаце выканальніцкіх мастацтваў у Лос-Анджэлесе (ЗША). Гэты вядомы ўжо малады артыст Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя І. Жыновіча вярнуўся з прэстыжнага музычнага спаборніцтва з залатым і двюма срэбнымі медалямі.

**Бронзавы** медаль VI Адкрытых маладзёжных Дэльфійскіх гульняў дзяржаў-удзельніц СНД, якія прайшлі ў Ерэване, атрымаў студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Павел Бацян (скрыпка) — удзельнік конкурснай праграмы гульняў.

Лана ІВАНОВА

На здымку: акварэль І. Сухарукава.

Як многа даверана песні:
І сонца ўсход напрадвесні,
Жывыя трывогі планеты
І зорная мудрасць сусвету.
Кране іх струны жывыя,
Паслухай біццё майго сэрца,
І, можа, ўсё тое, чым жыў я,
У сэрцы тваім адгукнецца…

# Элегія над Віліяй



Гэтыя цудоўныя радкі напісаў некалі наш зямляк — паэт Іван Лашутка. Менавіта з яго паэзіі распачаўся новы напрамак у культурным жыцці Вілейшчыны — літаратурная аўтарская песня, нарадзіўся і выйшаў на шырокую сцэну народны калектыў аўтарскай песні "Элегія" Вілейскага палаца культуры.

Элегія… Настальгічны музычна-паэтычны жанр. Але ў наш век інавацыйных тэхналогій электронная музыка, фанаграмы ўсё актыўней выцясняюць жывое мастацтва, пераважаюць, на жаль, новыя тэрміны: "фармат", "нефармат"… І ўсё ж аўтарская песня кранае душы людзей, бо ў ёй закладзены самыя высокія памкненні чалавечай душы. Яна не гіпнатызуе шматлюдныя аўдыторыі лёгкім забаўляльным шоу, наборам гукавых і светлавых эфектаў, не ўжывае фанаграму. Яна разлічана на непасрэдны кантакт з людзьмі. Імправізацыя тут заўсёды магчыма. Можна задумацца, захапіцца — і па-новаму загучаць радок і музыка. Таму і невыпадкова ўся творчая дзейнасць калектыву аўтарскай песні "Элегія" накіраваная на папулярызацыю беларускай паэзіі, абуджэнне ўвагі да беларускага слова, класічнай спадчыны аўтарскай песні, творчасці самадзейных кампазітараў і паэтаў.

Калектыў аўтарскай песні "Элегія" створаны ў 1999 годзе. Удзельнікі — творчыя, апантаныя людзі. У яго асноўным складзе аўтары-выканаўцы Уладзімір Лапцік, Людміла Шагава, Уладзімір Цанунін, Сяргей Верамееў, Наталля Піваварэвіч, Аляксей Сяліцкі ды аўтар гэтых радкоў; паэты — Таццяна Цвяткова, Клаўдзія Дубовік, Аляксандра Лапацкая, Сяргей Паўлоўскі, Віктар Кажура. Іх песні і вершы неаднаразова гучалі на Беларускім радыё і тэлебачанні, друкаваліся ў раённых, абласных і рэспубліканскіх перыядычных выданнях ("ЛіМ", "Першацвет", "Бярозка", "Вожык" ды інш.), у нотных і паэтычных зборніках Мінскага абласнога народнага клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў "Жывіца". Удзельнікі калектыву — лаўрэаты і дыпламанты абласных, рэспубліканскіх, міжнародных фестываляў, конкурсаў, турзлётаў: "Лицедейство старого города", "Витебский листопад", "Петербургский аккорд-2004", "Бардаўская восень", "Напеў зямлі маёй!", "Ратуйце людзі, усё жывое!". Паэты "Элегіі" маюць свае паэтычныя зборнікі.

А дэбют адбыўся на Беларускім тэлебачанні ў праграме, прысвечанай творчасці паэта-земляка Івана Лашуткі. Потым быў віцебскі фестываль аўтарскай песні "Лицедейство старого города", дзе калектыў і яго ўдзельнікі атрымалі дыпломы лаўрэатаў ва ўсіх намінацыях, а дзве песні аўтараў-выканаўцаў увайшлі ў фестывальны дыск "Майстар-клас". У 2003-м калектыву "Элегія" нададзена званне "народны", якое пацверджана і сёлета.

"Элегія" — актыўны ўдзельнік Мінскага абласнога народнага клуба самадзейных кампазітараў і паэтаў "Жывіца" (кіраўнік Ірына Карнаухава), супрацоўнічае з вядомымі паэтамі, бардамі, кампазітарамі. У рэпертуары — песні не толькі на ўласныя тэксты, але і на вершы вядомых літаратараў Навума Гальпяровіча, Васіля Жуковіча, Аліны Легастаевай, Людмілы Рублеўскай ды самадзейных паэтаў. Запісаны чатыры дыскі. Апошні з іх — "Іду са словам да людзей" (музычна-паэтычная кампазіцыя "Свята дваіх"), — прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння Івана Лашуткі. Гэты дыск — частка праекта "Незабыўныя імёны Вілейшчыны", ініцыятары якога, акцёр і рэжысёр Беларускага радыё Алег Вінярскі ды аўтар гэтых радкоў, распачалі ў 2009 годзе канцэртам-прэзентацыяй дыска. У канцэрце разам з "Элегіяй" удзельнічалі выканаўца вершаў паэта Алег Вінярскі, гітарыст Уладзімір Ткачэнка, мясцовыя выканаўцы і аматары паэзіі. Праект прадугледжвае выхад серыі дыскаў, прысвечаных творчасці славутых землякоў, правядзенне шэрага мерапрыемстваў па ўшанаванні іх памяці. Дарэчы з гэтай мэтай у хуткім часе будуць добраўпарадкаваны сквер, які пасадзіў Іван Лашутка разам з вучнямі і жыхарамі горада Вілейкі ды створаны літаратурны клас-музей у школе, дзе працаваў апошнія 20 гадоў паэт.

Ініцыятар правядзення рэгіянальнага фестывалю аўтарскай песні і паэзіі "Вілейская хваля" — таксама "Элегія". Асноўная мэта праекта — выяўленне новых талентаў, далучэнне моладзі да аўтарскай песні, беларускай паэзіі. Калектыў шмат гастралюе, удзельнічае ў абласных, рэспубліканскіх, міжнародных мерапрыемствах, супрацоўнічае з вядомымі аўтарамі-выканаўцамі. А за актыўны ўдзел у эфірным працэсе і падтрымку радыё "Сталіца" на ХІІІ Міжнароднай выстаўцы "СМІ ў Беларусі" наша "Элегія" ўзнагароджана дыпломам Беларускага радыё.

Летась удзельнікаў калектыву запрасіў да сябе, да супольнай працы Беларускі саюз музычных дзеячаў, а гэта значыць, пашыраюцца творчыя сувязі "Элегіі" з іншымі рэгіёнамі нашай краіны. А наперадзе — шмат цікавых праектаў.

Таццяна ЗАХАРЫЧ,
дырэктар цэнтра эстэтычнага выхавання пры аддзеле культуры Вілейскага райвыканкама,
кіраўнік народнага калектыву "Элегія", член БСМД

# Надзея на… рэанімацыю

Складаны шлях развіцця быў наканаваны створанай у 1989 годзе Асацыяцыі беларускіх майстроў музычных інструментаў (АБММІ). Яна стала структурным падраздзяленнем музычнага таварыства БССР (з 1991 г. — Беларускі саюз музычных дзеячаў) і да 1993 года адыгрывала прыкметную арганізатарскую ролю ў адпаведнай галіне. У 1990 і 1991 гг. упершыню ў краіне адбыліся рэспубліканскія выстаўкі-аўкцыёны работ майстроў музычных інструментаў, якія надалі значны імпульс далейшаму развіццю гэтага кірунку творчасці.

Аднак перабудова ў грамадстве адсунула на другі план сферу музычных інструментаў. І асацыяцыя змоўкла, майстры кожны паасобку спрабавалі вырашаць свае прафесійныя праблемы. Але ж, у асноўным, без асаблівых поспехаў. Вось чаму ў 2006 годзе намаганнямі БСМД гэтае фарміраванне было рэанімаванае і пры садзейнічанні Міністэрства культуры Беларусі ўдалося падрыхтаваць і правесці ў Нацыянальным гістарычным музеі ІІІ Рэспубліканскую выстаўку музычных інструментаў, у якой узялі ўдзел 18 майстроў з усіх рэгіёнаў краіны. У экспазіцыі, якая працягвалася амаль месяц, былі прадстаўлены інструменты па шасці намінацыях: струнныя смыковыя, струнныя шчыпковыя, этнаграфічныя фальклорныя, гармонікі, копіі гістарычных інструментаў і ўдарнашумавыя. Свой інструмент тут маглі знайсці як прафесійныя музыканты, так і студэнты спецыяльных вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, навучэнцы музычных школ, фальклорныя калектывы. Майстры, што з'ехаліся на выстаўку, правялі канферэнцыю, абралі новы склад кіраўніцтва асацыяцыі, распрацавалі перспектыву дзейнасці, аднавілі інфармацыйныя сувязі паміж членамі АБММІ. І справа пайшла. У 2007 годзе, дзякуючы падтрымцы Міністэрства культуры, наша асацыяцыя арганізавала выстаўку работ у межах мерапрыемстваў XVI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", а праз год тамсама — ужо на міжнародным узроўні з удзелам майстроў з Расіі.

Але ж парадны бок справы заканчваецца, а праца павінна працягвацца. І па выніках тых выставак на адрас Міністэрства культуры быў накіраваны ліст — ад прэзідыума праўлення БСМД і АБММІ, у якім, у прыватнасці, гаварылася: "Грамадскасць рэспублікі занепакоена станам, які склаўся ў цяперашні час у сферы вытворчасці, рамонту і абслугоўвання музычных інструментаў. Практычна спынілася паступленне на рынак айчынных баянаў, гармонікаў, піяніна, цымбалаў. Распад вытворчасці прыводзіць да значнага падаражэння рамонтных і аднаўленчых работ, з прычыны неабходнасці паставак запчастак з-за мяжы. Сёння парк музычных інструментаў усёй краіны, асабліва музычных навучальных устаноў у сельскай мясцовасці, знаходзіцца ў сумным стане. Асаблівую трывогу выклікае стан спраў з вырабам беларускіх народных інструментаў — сімвалаў нацыянальнай культуры. Вострa стаіць пытанне наконт распрацоўкі прыкладнога даследавання "Музыка беларускага двара". Група беларускіх навукоўцаў даследавала цэлы гістарычны пласт культуры XVII — XIX стагоддзяў. Але ў мастацкім жыцці гэтыя матэрыялы прадстаўленыя не на належным узроўні, паколькі аднаўленне карціны музычнага жыцця мінулага немагчыма без аднаўлення інструментарыя..."

Былі і канкрэтныя прапановы для выпраўлення становішча.

Прайшло ўжо два гады. Але сітуацыя не палепшылася, нават пацягвае абвастрацца. Нагадаю "этапы дэградацыі" галіны.

Зачыніліся ўсе дзяржаўныя прадпрыемствы па вытворчасці музычных інструментаў. Майстры, якія працавалі там, пакідаюць прафесію.

Цымбалы, з іх выдатнай школай і развітай мастацкай практыкай, выкінуты з вытворчасці.

Навукова-творчая лабараторыя беларускіх народных інструментаў БДУ культуры і мастацтваў перапрафілявана з прыкладных даследаванняў на музыказнаўчыя. Там сабралі спецыялістаў па народнай інструментальнай музыцы — і быццам "закрылі пытанне". Але ж не закрылі, а затапталі. Лабараторыя — як падраздзяленне, скіраванае на развіццё менавіта самога інструмента — памерла.

Майстры па вырабе, рамонце і рэстаўрацыі музычных інструментаў не маюць у краіне ніякай базы для адукацыі. Усё адбываецца саматугам. Некаторыя з іх на аснове самаадукацыі, праз неверагодныя намаганні, дасягнулі-такі поспехаў. Але ж і гэтыя дасягненні няма магчымасці ацаніць па заслугах — няма тарыфікацыйнай камісіі. У выніку — такія майстры на дзяржаўнай службе атрымліваюць мізэрную зарплату.

Па рэспубліканскай праграме "Культура" прайшлі тэмы "Беларускія народныя духавыя інструменты" і праект В. Калацэя, звязаны з выкарыстаннем традыцыйных музычных інструментаў у дзіцячым выхаванні. Які ж выхад у культурныя рэаліі? Так, методыка выкарыстання інструментаў ёсць. Але ж вытворчасць традыцыйных музычных інструментаў менавіта для дзяцей — тэхналагічных, танных, даступных, — хутчэй за ўсё, не прадбачыцца. Тэма вымагае працягу. Нельга такія распрацоўкі класці на пыльную паліцу.

Нядаўна з вялікім здзіўленнем, даведаўся, што ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце на кафедры дрэваапрацоўкі ёсць зацверджаная спецыялізацыя… па падрыхтоўцы майстроў музычных інструментаў! Але яна ніколі не дзейнічала. Чаму ж няма прыёму на гэтую дэфіцытную спецыялізацыю? Чаму не дзейнічае цудоўная база працы па праблемах інструментарыя? Прычын, мяркую, дзве. Першая — аб'ектыўная: развažаюць па-старому, няма дзяржаўнай вытворчасці — няма куды і размяркоўваць выпускнікоў. Другая — суб'ектыўная: нядаўна пахавалі выкладчыка кафедры, адзінага музыканта ў гэтым педагагічным калектыве.

Пайшоў я зноў у Міністэрства культуры з лістом, які напісаў крывёю сэрца, — з прапановамі наконт дапамогі. Племя ж наша рэдкае, вымірае, а паслядоўнікаў гэтай няўдзячнай сёння прафесіі — няшмат. Вось і нядаўна пакінуў зямны свет апошні прадстаўнік славутага роду майстроў музычных інструментаў — Жукоўскіх…

Зразумела, сёння няма такой вытворчасці ў ранейшым, сацыялістычным разуменні гэтага слова. Але ж калі б дзяржаўныя структуры навучыліся ўспрымаць індывідуальнае прадпрыемства і Асацыяцыю беларускіх майстроў музычных інструментаў сур'ёзна, калі б сур'ёзна пачалі займацца навуковай, адукацыйнай, фінансавай, адміністратыўна-арганізацыйнай падтрымкай майстроў, — мяркую, усе праблемы ў хуткім часе вырашыліся б.

Гадоў 30 або 40 я назіраю нарады, пасяджэнні, сходы, на якіх музыканты і функцыянеры ад культуры ўзнімаюць і спрабуюць вырашыць праблемы з вырабам музычных інструментаў. Браткі, але ж нічога не мяняецца. Напэўна, ужо час усвядоміць, што гуманітарыі, незалежна ад іх спецыялізацыі і прафілізацыі, не могуць зразумець артыста са станярнымі схільнасцямі. Менавіта тут, на мой погляд, і ёсць галоўная складанасць справы. У нашай прафесіі трэба спалучыць музычную і тэхналагічную адукацыю. А яшчэ — нашы праблемы простыя і натуральныя, як і ў кожнага рамесніка. Неабходна вызначыць парадак выдзялення членам АБММІ памяшканняў для размяшчэння вытворчых майстэрняў і распаўсюдзіць на іх, паводле прыкладу беларускіх саюзаў мастакоў і архітэктараў, уздзеянне паніжальнага каэфіцыента да базавых ставак аплаты за арэнду і камунальныя паслугі. Неабходна дазволіць штогод увозіць у краіну без мытных збораў і падатку на дадатковую вартасць ліміту драўніны каштоўных парод у аб'ёме 20 кубаметраў для членаў Асацыяцыі беларускіх майстроў музычных інструментаў. А яшчэ было б добра выдзеліць для АБММІ грант на арганізацыю пастаяннa аднаўляльнага складу каштоўнай драўніны. Гэта дазволіць забяспечыць майстроў неабходнай сыравінай па даступным кошце, мінаючы пасрэднікаў.

Пытанняў назбіралася шмат, і наспела неабходнасць правесці канферэнцыю асацыяцыі. Абмеркаваць, як жыць далей. На канферэнцыі і адказ з Міністэрства культуры на маё пісьмо пачуем. Балазе, у міністэрстве сёння новыя людзі — можа, што і зрушыцца?

З паклонам да ўсіх майстроў

Віктар КУЛЬПІН,
старшыня Асацыяцыі беларускіх майстроў музычных інструментаў БСМД

## Нашы юбіляры



САКАЛОВА Алена Канстанцінаўна — галоўны дырыжор камернага хору Гомельскай абласной філармоніі.



КАЗАНЦАВА Ірына Мікалаеўна — загадчык цыклавой камісіі Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. І. Глінкі.



КУЛЯШОЎ Леў Міхайлавіч — загадчык цыклавой камісіі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.



АСНОВІЧ Таццяна Самуілаўна — загадчык цыклавой камісіі Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.



ВАЛАСЮК Лілія Казіміраўна — дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.



ЯНПОЛЬСКІ Анры Барысавіч — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў.



ЛАПУНОЎ Анатоль Максімавіч — галоўны дырыжор БДАМТа, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, намеснік старшыні Асацыяцыі оперна-сімфанічных дырыжораў БСМД.



АЎРАМЕНКА Ніна Васільеўна — дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, мастацкі кіраўнік ансамбля флейтыстаў "Сірынкс".

Сябры! На вашы пытанні, якія датычаць падрыхтоўкі матэрыялаў для гэтай старонкі, адкажа першы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Наталля Васільеўна ВІТЧАНКА.
Тэлефоны: (017) 222-37-33 — працоўны; (029) 507-55-05 — МТС; (029) 699-32-00 — Velcom.




## Слова краязнаўцы



Леанід Гаравы з Гарадоччыны разважае пра значэнне краязнаўства ў стварэнні пазітыўнага іміджу краю:

— Наша Гарадоччына знаходзіцца на поўначы краіны і мае адну з самых вялікіх плошчаў сярод раёнаў Беларусі. Займаючыся краязнаўствам з сярэдзіны 1990-х, з самага пачатку ўвагу надаваў таму, як можа выдзеліць нашу мясцовасць сярод іншых мясцін краіны. Такой адметнасцю з'яўляецца нараджэнне на Гарадоччыне самага верагоднага аўтара паэмы "Тарас на Парнасе" Канстанціна Вераніцына. Правядзенне літаратурна-краязнаўчых чытанняў "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы" дазволіла далучыць да краязнаўчай дзейнасці настаўнікаў і вучняў Гарадоччыны, папулярызаваць тарасазнаўства ў грамадстве, стварыць мемарыяльныя знакі аб Канстанціне Вераніцыне і славутай паэме ля краязнаўчага музея і ў вёсцы Астраўляне, дзе нарадзіўся Вераніцын. Краязнаўчая дзейнасць дазволіла стварыць брэнд: Гарадоччына — радзіма аўтара паэмы "Тарас на Парнасе". Але яго існаванне патрабуе пастаяннай працы па стварэнні "брэндавай" прадукцыі, правядзенні краязнаўчых пошукаў. І, безумоўна, садзейнічае фарміраванню пазітыўнага іміджу Гарадоччыны.

Між тым не даследаваных, не ўведзеных у масавае карыстанне славутасцей Гарадоччыны вельмі многа. І гэта не столькі недапрацоўкі краязнаўцаў, колькі агульны падыход да спадчыны краю. Гарадоччына славіцца курганнымі могільнікамі (Георгій Штыхаў нават называў наш раён самым багатым у краіне на могілкі). Але да гэтага часу яны не ўведзены ў турыстычныя маршруты, не створана адпаведная сувенірная прадукцыя. А сярод іх ёсць унікальныя могільнікі вёскі Дарахі, дзе знаходзілі каменныя скульптуры асобных частак чалавечага цела, і менавіта гэтыя экспанаты могуць патэнцыйна прыцягваць увагу турыстаў.

Наогул, адметных прыродных і гістарычных мясцін на тэрыторыі Гарадоччыны шмат. Краязнаўцы, патрыёты краю, робяць пэўныя крокі па вывучэнні і папулярызацыі славутасцей нашага раёна. Але гэта толькі пачатак агромністай працы па стварэнні пазітыўнага іміджу краю не толькі ў сучасным грамадстве, але і сярод нашчадкаў. І наканаванне краязнаўцаў у тым, каб садзейнічаць гэтаму працэсу.

## Сустрэча другая, чаканая

Другі раз прадставіла свае іканапісныя работы ў Ашмянскім краязнаўчым музеі імя Францішка Багушэвіча мастачка з Маладзечна Ядвіга Сянько. Выпускніца аддзялення станковага жывапісу і графікі Маскоўскага ўніверсітэта мастацтваў ужо трынаццаць гадоў цесна супрацоўнічае з ЗАТ "Хрысціянская ініцыятыва".

Па бласлаўленні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта мастачка піша спіскі з усіх вядомых у праваслаўным свеце ікон. У ліку яе работ ёсць і каталіцкія абразы. Усяго яна стварыла больш як 1200 ікон і карцін на хрысціянскую тэматыку. Некаторыя з іх можна ўбачыць у храмах Маладзечна і Маладзечанскага раёна, у многіх цэрквах і касцёлах Беларусі. У Ашмянах таксама ёсць ікона, напісаная гэтай мастачкай.

Раіса МАРЧУК

## Музейны ўнікат

# Скарбы гісторыі

У краязнаўчых музеях краіны захоўваецца шмат прадметаў даўніны. Некаторыя з іх можна лічыць звычайнымі, не ўнікальнымі па сваёй сутнасці. Але сярод многіх адносна шараговых часам трапляюцца і сапраўдныя рарытэты, нават для музеяў. Рарытэтам такі прадмет робіць як яго адзінкавасць, так і сувязь з адметнай гісторыяй краю, падзеяй, якая адбылася ў пэўнай мясціне Беларусі. На старонках "Зямлі пад белымі крыламі" мы распачынаем новы праект, мэта якога — расказаць пра самыя рэдкія і загадкавыя, адметныя і ўнікальныя экспанаты, што захоўваюцца ў нашых краязнаўчых музеях. Бо часам здараецца так, што сапраўдныя скарбы гісторыі, нявывучаныя рэчы, археалагічныя знаходкі застаюцца незаўважанымі краязнаўцамі, гісторыкамі-аматарамі і нават прафесіяналамі. Не таму, што іх зусім мала, а таму, што пра іх існаванне і месцазнаходжанне ведаюць адзінкі. Калі ў вашым музеі ёсць прадметы, якімі варта ганарыцца, але пра якія мала хто ведае, рэчы загадкавыя і нешараговыя, пішыце нам. Да ўдзелу запрашаем усе краязнаўчыя музеі Беларусі.

Рэдактар рубрыкі "Зямля пад белымі крыламі"
Марына ВЕСЯЛУХА
Электронны адрас: himarina@tut.by



# «Ушэбці» — у Браслаўскім музеі

Браслаўскі гісторыка-краязнаўчы музей быў створаны больш як чвэрць стагоддзя таму. Падмурак першай экспазіцыі склалі звыш 700 экспанатаў, якія дазволілі адлюстраваць найважнейшыя старонкі гісторыі горада і краю. Трэба адзначыць, што музей ствараўся на грамадскіх пачатках. Яму першапачаткова былі перададзены матэрыялы невялікага, але змястоўнага музея сярэдняй школы № 1 Браслава, створанага пад кіраўніцтвам настаўніка і краязнаўцы Аляксандра Гарэліка. Вялікую дапамогу ў камплектаванні фондаў таксама аказалі і аказваюць археолагі, даследчыкі, гісторыкі і краязнаўцы. Сённяшні фонд музея складае больш як 10 тысяч экспанатаў.

— Гонарам музейнай экспазіцыі з'яўляецца старажытная егіпецкая статуэтка "Ушэбці", што у перакладзе азначае "адказчык", — расказвае навуковы супрацоўнік Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея Ганна Базарэвіч. — Калісьці ў Егіпце лічылася, што калі чалавек памірае, то бог Асірыс кліча ісці да яго на працу. Замест нябожчыка "працавала" статуэтка. Чым багацейшы быў чалавек, тым больш у яго знаходзілі такіх статуэтак. Дакладна невядома, як прадмет трапіў на Браслаўшчыну, але яго прысутнасць тут сведчыць пра тое, што ў старажытныя часы былі добра развітыя гандлёвыя сувязі з іншымі дзяржавамі. Што датычыцца мясцовай археалогіі, то з унікальных экспанатаў тут знаходзіцца камплект жаночых упрыгожанняў, якія былі знойдзены ў кургане каля возера Укля. Ён рэдкі па сваёй паўнаце і ўключае галоўнае спіралепадобнае ўпрыгожанне, шыйную грыўню, падвеску з бразготкамі, дзве пары бранзалетаў, шкляныя пацеркі. Самае ўнікальнае з іх — полая падвеска-конік — сімвал жыцця і ўрадлівасці, характэрная для Наўгародскай зямлі. Ёсць у нашым музеі і кавалкі костак жывёл з надрапанымі на іх рунічнымі (скандынаўскімі) надпісамі, малюнкамі. Такія рэчы нідзе больш не знойдзены на тэрыторыі Беларусі. Дзякуючы прыгажосці блакітных азёр і рэк, не абмінуў Браслаўшчыну ў часы Сярэднявечча і водны гандлёвы шлях "з варяг у грэкі". Гэта прывяло да сімбіёзу шматлікіх культур, таму і па сённяшні дзень археолагі знаходзяць адмысловыя рэчы.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: старажытная егіпецкая статуэтка "Ушэбці".

# Анёл-ахоўнік Беларусі

Маленькая вёсачка Варацэвічы, што ў Іванаўскім раёне, з насельніцтвам крыху больш як чатырыста чалавек, на першы погляд, не мае ніякай асаблівай знанасці. Але менавіта тут нарадзіўся, жыў і тварыў знакаміты графік і кампазітар Напалеон Орда. Менавіта тут знаходзіцца адзіная ў Еўропе карцінная галерэя нашага земляка.

Берасцейцам Напалеона Орду адкрыў мясцовы краязнаўца Віталь Клімчук, сам выхадзец з Іванаўскага раёна. Першую прысвечаную Орду выставу — вельмі сціплую — Клімчук арганізаваў у Брэсцкім краязнаўчым музеі. З тых часоў прайшло 20 год. Мясцовымі ўладамі Іванаўскага раёна была праведзена значная праца, і ў 2006 годзе ў Варацэвічах з'явілася карцінная галерэя Напалеона Орды.

Канчатковае адкрыццё галерэі адбылося ў лютым 2007 года і было прымеркавана да двухсотгоддзя з дня нараджэння мастака і кампазітара. Першым наведвальнікам былі прадстаўлены акварэлі і літаграфіі знакамітага беларуса, а таксама карціны сучасных мастакоў. З цягам часу фонд папаўняўся. У 2009 годзе ў падарунак галерэі былі перададзены 40 копій літаграфій з фонду Нацыянальнага музея ў Варшаве. На іх — выявы помнікаў архітэктуры, гістарычных мясцін Беларусі, Польшчы, Украіны і Літвы. Работы былі створаны майстрам ў 60—70 гадах XIX стагоддзя. Перададзеныя літаграфіі, хоць і з'яўляюцца копіямі, створаны максімальна блізка да арыгіналаў, нават з выкарыстаннем паперы XIX стагоддзя.

Галерэя складаецца з пяці залаў, кожная з якіх мае сваю тэматыку. Першая зала — мемарыяльная. Яна асвятляе жыццё Напалеона Орды і людзей, якія былі з ім звязаны. Тут прадстаўлены партрэты і фотаздымкі родных і сяброў мастака. Пасярэдзіне залы, нібы згадка пра музычныя захапленні Орды — піяніна той эпохі. Галоўнымі экспанатамі з'яўляюцца вялікі куфар і завеса з сядзібы мастака — адзінае, што захавалася пасля шматлікіх пажараў. Пры жыцці Напалеон Орда стварыў сем альбомаў з акварэлямі і літаграфіямі. Менавіта ў другой зале галерэі можна пабачыць як копіі альбомаў, так і асобныя працы мастака. У трэцяй зале прадстаўлены сорак работ мастака, перададзеныя Нацыянальным музеем у Варшаве. Далейшае падарожжа па галерэі раскрывае наведвальнікам сучасную творчасць брэсцкіх мастакоў. Чацвёрты пакой — зала для экспазіцый.



На тэрыторыі карціннай галерэі праходзяць і пленэры. На чатырох з іх збіраліся мастакі з усёй Беларусі. Менавіта іх работы напоўнілі пятую залу. Апошні пленэр сабраў у Варацэвічах ужо не мастакоў, а скульптараў. Іх працу заўважаеш адразу, толькі пад'язджаючы да галерэі. Высокія скульптуры з дрэва увасобілі вобразы, звязаныя з жыццём і творчасцю Напалеона Орды. У хуткім часе на тэрыторыі вёскі Варацэвічы плануецца адкрыць мастацкую школу для адораных дзяцей і гасцінічны комплекс. Гэтыя новыя пабудовы змогуць прывабіць яшчэ больш наведвальнікаў у Варацэвічы, падштурхнуць і на знаёмства са спадчынай Напалеона Орды.

Юлія БЯЛКО

На здымку: драўляны скульптурны партрэт Напалеона Орды.

Фота аўтара

## Культура слова

# Драпянка

З гэтым словам атрымалася проста дэтэктыўная гісторыя.

Пазваніў мне Анатоль Клышка: ці ведаю я, што такое драпянка? Тая, што ў вядомай прымаўцы, якую выкарыстаў Якуб Колас у паэме для дзяцей "Савосьраспуснік":

Ну, такі каток харошы,
Як драпянка за тры грошы!

Неўзабаве напаткаўся ў бібліятэцы Алесь Каўрус, вядомы мовазнаўца, і таксама пытае пра драпянку. А потым яшчэ нехта. Я толькі паціскаў плячыма: прымаўку ведаў, а от што гэта за драпянка — панятку не меў. І чамусьці ніколі не задумваўся. Цяпер слова мяне проста заінтрыгавала, край захацелася даведацца, што яно азначае. Шукаючы яго зніклы сэнс, мы ці не палову Мінска паднялі на дыбы. Пытаў і ў аднаго, і ў другога, і ў трэцяга, у адной, і ў другой і ў трэцяй — поўнае няведанне. Згубілі слова! "Шляпы!" — сказаў бы Уладзімір Караткевіч. Пэўна ж, трэба пытацца ў старых людзей.

З надыходам летняга сезона падаўся ў сваю Зялёную Дуброву. На вуліцы пытаюся пра драпянку ў сваёй суседкі Віцці. Задумалася. "Можа, гэта кошка, якая драпаецца?" Бачу — не ведае. Стаім, гадаем. Падышлі яшчэ жанчыны — і пажылыя, як Віцця, і маладзейшыя. Падключыліся да нашай гутаркі. Пачалі выказваць свае здагадкі, спрачацца. Словам, завялі ў Мінску мяне, завёў і я сваіх зялёнадуброўцаў. Нічога не праясніўшы, іду да самай пажылой жанчыны — Ядвісі Цвіркі (з роду Купалавых Луцэвічаў), якой ішоў ужо 87 год. Яна не задумвалася пра драпянку: гэта, кажа, тканіна. Не шчыльная, разрэджаная. Вытканая ў канцы ткання ўроскідку. І падрабязна расказала, як яе ткалі з рэштак нітак. Згадзілася з Ядвісяй і яе равесніца Броня Дубовік. Пацвердзілі гэта і нашы былыя вяскоўцы — васьмідзесяцігадовыя Аля і Ваця Жыдовічы, якія прыязджалі з Мінска на Радаўніцу.

Я толькі хацеў дазнацца, для чаго ткалі такую разрэджаную тканіну. "На ўсё ўсякае", — адказвалі мне. Але на што канкрэтна, чамусьці не прыгадвалі. Толькі Ядвіся сказала: "І на спадніцы ішла". "Гэта, каб ножкі прасвечваліся, як у мінскіх модніц?" — пажартаваў я. "Ну але, — адказала мне ў тон Ядвіся. — Да свіней хадзіць у хлеў".

Тыдні праз два, чакаючы "аўталаўку", што прыходзіць у Зялёную Дуброву тры разы на тыдзень, гаманю я — пра ўсё, што набяжыць — з жанчынамі нашага канца вёскі. Да мяне падсоўваецца Броня, кранае за плячо і, як бы працягваючы ранейшую размову, кажа: "Драпянка вот на што ішла. Яе нашывалі спадыспаду на каўнер верхняй шарсцяной адзежыны — каб стаяў, каб быў пруткі". Так, так... Яшчэ ў адным кірунку завірыліся ў мяне думкі: ці не звязана наша драпянка з драпам — "тоўстай шарсцяной ці паўшарсцяной тканінай, з якой шыюць верхняе аддзенне", як падаюць слоўнікі? А можа, з драпіроўкай — ад дзеяслова драпіраваць (абіваць, аздабляць якой-небудзь тканінай)?

Новы віток росшукаў ізноў пераносіцца ў Мінск. Сягаю ў вучоныя сферы. Іду ў Інстытут мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, сустракаю там Валянціну Лемцюгову, былую аднакурсніцу, а цяпер знаную навукоўцу, аўтара многіх кніг па мовазнаўстве і тапаніміцы. Не, пра драпянку дакладна нічога не можа сказаць. Выказвае меркаванне, што слова гэтае — ад дыялектнага драпкі (махры, канцы). Скупенькая інфармацыя. Спускаюся двума паверхамі ніжэй — у родны Інстытут мастацтвазнаўства, этнагафіі і фальклору, да былой калежанкі Ганны Курыловіч, аўтара кнігі "Беларускае народнае ткацтва". Кнігу яе вывучаў раней, але нічога пра драпянку там не знайшоў. Мо ўсё ж сустракала дзе гэтае слова, збіраючы матэрыял для кнігі? Не, не сустракала.

Пошукі мае завяршыліся спатканнем з сынам Якуба Коласа — Міхасём Міцкевічам, героем бацькавай паэмы "Міхасёвы прыгоды". На пытанне пра драпянку Міхась Канстанцінавіч адказаў адразу: гэта — сурвэтка.

Здаецца, усё сходзіцца, усё цяпер становіцца на месца. Драпянка — гэта вытканае ўроскідку (дарэчы, яшчэ адзін не пазначаны ў слоўніках тэрмін) зрэбнае палатно, што драпаецца (беларускі драп!), і выраблены з яго гатунак таннай сурвэткі. Словам, драпянка за тры грошы!

Кастусь ЦВІРКА



У свой час у Навукова-асветным цэнтры імя Францыска Скарыны быў падрыхтаваны "Біяграфічны слоўнік беларускіх краязнаўцаў" (цяпер захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва). Варыянт слоўніка — у выглядзе кароткіх біяграфічных даведак — друкаваўся ў "Краязнаўчай газеце". Прапануем увазе чытачоў адну з самых цікавых аўтабіяграфій, дасланых у цэнтр, — аўтабіяграфію Алеся Махнача, поўны тэкст якой публікуецца ўпершыню.

Віталь Скалабан



# Летапіс краязнаўчай працы

Аўтар гэтых радкоў нарадзіўся ля вытокаў Нёмана. Там правёў дзіцячыя гады. Вядома, пра сваю родную раку, пра яе лёс, сённяшнія праблемы не мог не напісаць. У часопісе "Беларусь": "Цячэ рэчка" (№ 5, 1982 г.), "Бацька-Нёман просіць вады" (№ 2, 1995 г.), "Ля родных крыніц". У часопісе "Беларуская думка" (№ 4, 1997 г.) "Пазарасталі рэчкі, азёры…". У штотыднёвіку "ЛіМ": "Нёману выдалі пашпарт" (20.10.1995 г.), "Яшчэ раз пра Нёман" (24.07.1998 г.) і інш.

Некаторыя з гэтых публікацый убачылі свет у перакладах на рускую і літоўскую мовы. У свой час абмяркоўваліся на Калегіі Дзяржкампрыроды БССР — усё гэта садзейнічала будаўніцтву на верхнёманскіх прытоках Уздзеншчыны вадасховішчаў "Літавецкае" і "Уздзенскае".

На старонках часопіса "Беларусь" (№ 3, 1982 г.) надрукаваў нарыс "Мой Нёман", дзе ўдакладніў сапраўднае месца нараджэння ракі і яе прытока Лоша, якія бяруць свой выток з аднае крыніцы. Гэта ля пасёлка Верх-Нёман. Да публікацыі нарыса ў энцыклапедычных выданнях, даведніках і ў навуковай літаратуры — усюды сцвярджалася, што "русла Нёмана бярэ свой пачатак непадалёк ад вёсак Забалоцце і Боркі" — рака скарачалася на добры дзясятак кіламетраў. Сёння ля сапраўднай маці-крынічкі адкрылі памятны знак — камень-валун з металічнай таблічкаю: "З гэтых мясцін, пад назвай Нёманец, бярэ свой пачатак славутая рака Нёман".

У першыя пасляваенныя гады я запісаў і літаратурна апрацаваў легенду "Нёман і Лоша". Легенда стала творам вуснай народнай творчасці, увайшла ў школьныя чытанкі і фальклорныя зборнікі.

Калі працаваў загадчыкам Прысынкаўскай сельскай бібліятэкі (1947 — 1953 гг.), запісаў у роднай вёсцы і навакольных каля трох тысяч прыказак і прымавак. Звыш 350 з іх увайшло ў акадэмічны двухтомнік "Прыказкі і прымаўкі", а таксама ў зборнік "Выслоўі".

Доўгі час, калі пераехаў у Мінск, працаваў у рэдакцыі газеты "ЛіМ": 1953 — 1961 гг. і 1963 — 1966 гг. Творчая праца ў газеце давала магчымасць бываць у многіх раёнах рэспублікі, у выніку на старонках "ЛіМа" былі надрукаваны карэспандэнцыі па краязнаўстве. Сярод іх "Летапіс раскажа…" (17.03.1964 г.), "Клічуць непратаптаныя сцежкі" (13.07.1965 г.), "Слова летапісу" (18.10.1963 г.), "Раскажам унукам і праўнукам нашым" (30.06.1961 г.), "Біяграфія саўгаснай вёскі", "Першы актывіст праўлення калгаса" (28.07.1964 г.), "Жыццё падказвае" (13.10.1956 г.), "Дарогамі Прыбужжа" (3.06.1966 г.), "Неацэннае багацце народа" (4.10.1966 г.), "41-ы — 61-ы" (2.06.1961 г.), "Добрае чуваць далёка" (4.05.1966 г.), "Гаспадары свайго шчасця" (з запісной кніжкі пісьменніка) (15.08.1961 г.) і інш.

У нумары "ЛіМа" ад 6.10.1956 г. надрукаваў артыкул "Аб гэтым маўчаць нельга" — пра лёс сядзібы паэта Ф. Багушэвіча ў Кушлянах. Расказаў і пра тое, як праўленне мясцовага калгаса адабрала ў старога чалавека (дарэчы, сваяка Ф. Багушэвіча) яго ўласны дом, а гаспадара выкінула разам з рэчамі паэта-дэмакрата ў куратнік. На гэтую публікацыю "адгукнулася" радыёстанцыя "Бі-бі-сі", перадала артыкул са сваімі каментарыямі. "Рэагавалі" самыя высокія партыйныя службы і органы…

Надрукаваў нарыс пра сваіх землякоў: у часопісе "Маладосць" (№ 12, 1992 г.) "Кароўка", "Кураняткі" і "Песня пра Сталіна", а таксама ў раённай уздзенскай газеце "Чырвоная зорка" (№ 45, 46, 47, 48, 49, 50 за 1998 г.) "Самародны талент" — пра самадзейнага кампазітара Паўла Шыдлоўскага, які загадваў Прысынкаўскай хатай-чытальняй. П. Шыдлоўскі пісаў тэксты песень і музыку да іх, але выдаваў свае творы за народныя, бо яшчэ да вайны адзін з вялікіх начальнікаў кінуў яму страшны папрок: "Адсябяціну нясеш? Гэта можа скончыцца вельмі кепска". Тое самае П. Шыдлоўскі пачуў і ў 1949 годзе, калі са сваімі песнямі трапіў на абласны агляд мастацкай самадзейнасці. Творы самадзейнага кампазітара перакрэслілі і не пусцілі на агляд. Пра гэта я расказаў на Рэспубліканскай нарадзе культурна-асветных работнікаў, якая праходзіла ў лістападзе таго ж года. Гэта пачуў Генадзь Цітовіч, кіраўнік хору сяла Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна. Ён прыехаў да Шыдлоўскага, запісаў яго песні, зрабіў радыёперадачу для Масквы "Песні самадзейнага кампазітара з вёскі Прысынак". Пасля гэтага песні П. Шыдлоўскага надрукавалі ў Маскве ў перакладзе на рускую мову. Выйшлі яны асобнай кніжкай і ў Мінску. У маскоўскім выдавецтве "Советский композитор" выйшла манаграфія пра Шыдлоўскага Г. Загародняга. Гэтае выданне выходзіла і ў мінскім выдавецтве на беларускай мове. У 1955 годзе праходзіла 2-я Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. Напярэдадні ў Беларусі быў аб'яўлены конкурс на лепшую прывітальную песню Маскве. Дзясяткі вядомых кампазітараў і паэтаў прынялі ўдзел у конкурсе. Перамогу атрымала песня "Прывітальная Маскве", словы і музыку якой напісаў загадчык Прысынкаўскай хаты-чытальні Павел Шыдлоўскі. Яго хор і хата-чытальня славіліся ў рэспубліцы сваёй культурна-асветніцкай работай, а загадчык быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, удастоены ганаровага звання "Заслужаны дзеяч культуры БССР".

Пра паэта-маладнякоўца, Віктара Казлоўскага, які родам з вёскі Мрочкі Уздзенскага р-на, надрукаваў нарыс у штотыднёвіку "ЛіМ" (26.06.1994 г.) пад назвай "Расстраляных дум закілзаныя коні". З 1935 года да 1950 года паэт, загнаны страхам сталінскіх рэпрэсій, жыў у зямлянцы, зімою на свінаферме, дзе варылі свінням бульбу. Там дабываў сабе харчы, ды было цяплей. Што-небудзь давалі людзі. У снежні 1949 года мне па лініі работы з маладымі аўтарамі Літфонд Саюза пісьменнікаў прыслаў пуцёўку ў Дом творчасці "Каралішчавічы". У той час там былі А. Куляшоў, І. Шамякін, А. Макаёнак, В. Вітка, М. Аўрамчык і іншыя пісьменнікі. Хтосьці з іх успомніў пра таленавітага паэта Віктара Казлоўскага.

— Гэта той, які ў 1933 годзе выдаў тры кнігі паэзіі? Я з ім днямі сустракаўся, — удакладняючы, сказаў я.

Усе на мяне глянулі са здзіўленнем. "Яго ж, казалі, недзе ў 1937 годзе…" — пачуў я.

Назаўтра А. Куляшоў і я званілі ва Уздзенскі РК КПБ.

— Няма ў нас такога паэта, — адказалі нам.

Патэлефанавалі ў сельскі савет. Адтуль пачулі:

— Ёсць такі дзядок. Але, што ён паэт быў, мы нічога не ведаем.

Ад Саюза пісьменнікаў у вёску Мрочкі да Віктара Казлоўскага паехалі пісьменнік Алесь Якімовіч, з якім паэт калісьці вучыўся ў Белпедтэхнікуме, і ад Літфонду Марыя Хайноўская. Паэту купілі касцюм, з праўленнем мясцовага калгаса дамовіліся, што Саюз пісьменнікаў перавядзе на рахунак калгаса грошы, каб пабудаваць В. Казлоўскаму хату. Хата такая была пабудавана.

Пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці напісаў дакументальныя аповесці "Дзеці крэпасці" і "Камандзір Усходняга форта", якія выпусціла асобнымі выданнямі выдавецтва "Юнацтва" (1988 г. і 1991 г.), а таксама нарыс пра С. Смірнова ў яго дакументальнай кнізе "Брэсцкая крэпасць", якая была перакладзена на беларускую мову і выходзіла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". У зборніку "Людзі граніцы" (Мн., "Мастацкая літаратура", 1988 г.), складальнікам якога з'яўляюся, надрукаваў нарыс "Начальнік дзявятай" — пра Героя Савецкага Саюза А. Кіжаватава.

У 1999 годзе ў "ЛіМе" надрукаваў нарыс: "Забалацкі дзед Янкі Купалы" (20.08. 1999 г.), "Наш радавод і малая Радзіма" (10.11.1999 г.), а таксама ў раённай газеце — "Інвентар маёнтка расказвае…" ("Чырвоная зорка").

У 1998 г. выдавецтва "Пейто" выпусціла кнігу "Нізок". Дакументальная кніга "Забалацце" выходзіць на пачатку 2001 г. Творчае аб'яднанне "Тэлефільм" выпусціла дакументальны фільм "Нёман" па маім сцэнарыі.

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" ляжыць рукапіс дакументальнай кнігі "Запіскі былога сельскага бібліятэкара".

2000 год

Публікацыя Максіма КЛІМКОВІЧА

На здымках: А. Махнач і касманаўт П. Клімук; пісьменнік за рабочым сталом.




# Сплачваць даўгі роднаму…

У Брэсце, на Берасцейшчыне добра ведаюць краязнаўцу, вучонага, выкладчыка Брэсцкага тэхнічнага ўніверсітэта Анатоля Гладышчука. Ён даўно і апантана займаецца даследаваннем гісторыі сваёй роднай старонкі. Плённым вынікам яго пошукаў сталася кніга "Нямцэвічы: сапраўдныя гісторыі", выдадзеная летась РВУ "Літаратура і Мастацтва" пры падтрымцы Брэсцкага аблвыканкама. Сёння Анатоль Гладышчук адказвае на пытанні газеты "Літаратура і мастацтва".

— Анатоль Антонавіч, ваша захапленне краязнаўствам, якое, магчыма, вы і самі яшчэ нядаўна разглядалі як хобі, перарасло ў сур'ёзны занятак. Ці складана спалучаць працу ў галіне дакладных навук з гістарычнымі, краязнаўчымі пошукамі?

— Я быў вельмі здзіўлены, калі праз некаторы час пасля пачатку краязнаўчых даследаванняў высветліў для сябе, што менавіта дакладныя навукі вызначылі годную метадалогію правільных і дакладных гістарычных пошукаў. Скажу так: калі метады насамрэч навуковыя, яны прынцыпова не адрозніваюцца ў розных галінах.

— Шырокі рэзананс, станоўчыя рэцэнзіі ў друку атрымала ваша кніга "Нямцэвічы: сапраўдныя гісторыі". Ці доўга вы над ёй працавалі? Што стала штуршком для яе напісання?

— Захапленне тэмай Нямцэвічаў з самага пачатку не вызначала, што справа закончыцца напісаннем кнігі. Усё неяк ішло само па сабе. А калі заўважыў, што без кнігі не абысціся, спыняцца было ўжо позна — трэба было справу давесці да фінішу. Гэтаму ў многім пасадзейнічалі самі Нямцэвічы і выдавецтва. Генератарам у пэўнай ступені была і Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага, з якой я даўно сябрую, дзе перш-наперш чэрпаю веды. Але калі быць болей фактаграфічным, выразным штуршком была сустрэча з жывымі прадстаўнікамі роду Нямцэвічаў, якая адбылася ў маі 2002 года ў Брэсце. А кніга "Нямцэвічы: сапраўдныя гісторыі" выйшла ў 2009 годзе.

— На вашу думку, краязнаўства мае выключную ролю ў гістарычным, асветніцкім выхаванні грамадства?

— Асаблівасцю краязнаўства з'яўляецца тое, што кожны чалавек, неабыякавы да сваёй гістарычнай спадчыны, на гэтай ніве можа нешта сказаць і зрабіць — гэта вельмі дэмакратычна і выключна.

— Ведаю, што на вашым рабочым стале — новая кніга: "Замак Берасцейскі"….

— Яшчэ рана пра новую кнігу гаварыць, але яна зноў зусім не планавалася. Я распачаў працу аб падарожжы, якое мы з Паўлам Шпілеўскім здзейснілі разам на веласіпедах. А тут кола майго веласіпеда нечакана "апынулася ў глыбокай гістарычнай калдобіне", якая завецца — Берасцейскі замак. Так усё і пачалося. Не ведаю, калі скончу працу над гэтай кнігай, бо справа аказалася такой заблытанай і нявызначанай, што пішу літаральна па радку, але кожны дзень.

— Звычайна краязнаўцы пачынаюцца з цікаўнасці да сваёй малой радзімы... Ці выйдзе калі-небудзь ваша кніга пра родны раён Берасцейшчыны, вёску, адкуль вы пайшлі ў свет?

— Родам я з зусім невялікай вёскі Чарнякаў (Чэрнякуў), што размешчана за 30 кіламетраў ад Бярозы. Да першай сусветнай вайны яна вызначалася як адміністрацыйна-культурны мясцовы цэнтр з царквой, народным вучылішчам, валасным цэнтрам. Напрыклад, у 1905 годзе ў Чарнякаве жылі і працавалі 5 маладых настаўнікаў. Сялян там заўсёды жыло няшмат. Сёння ў вёсцы засталіся толькі адноўленая царква і два жыхары. Таму кніга — мой вялікі доўг роднаму Чарнякаву з такім няпростым, а ў нечым і тыповым лёсам.

— Ці знаходзіцца ў вас час аглядаць зробленае іншымі краязнаўцамі Брэста, вобласці?

— Кожная краязнаўчая кніга для мяне — свята, бо і кожны краязнавец — чалавек унікальны, і так, як ён, ніхто больш не напіша. Вельмі радуе, што такіх прац з'яўляецца ўсё больш.

— І ўсё ж краязнаўства для вас — жывая праца, якая вядзе да пэўных змен у мемарыялізацыі мясцін, ці толькі напамін пра былое?..

— Жывая праца, якая захоплівае так, што нявызначаны час жывеш толькі ёй.

Гутарыў Кастусь ЛАДУЦЬКА







# Пад родным крылом

Рэспубліканская выстаўка “Зямля пад белымі крыламі”, што на пачатку верасня адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі і будзе працаваць тут яшчэ амаль тры тыдні, вылучылася на айчынным арт-абсягу не столькі тэматычнай, жанравай, стылёвай разнастайнасцю (калектыўнымі праектамі, у якіх па-фестывальнаму талерантна і арганічна суіснуюць нават антаганістычныя плыні выяўленчай творчасці, мінскую публіку не здзівіш), колькі ўражлівым размахам. У фае, залах першага паверха і на галерэі размясціліся 243 творы (жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва) 148 аўтараў — такія лічбы назваў падчас вернісажа дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў. Сярод аўтараў прадстаўленых работ — народныя мастакі, заслужаныя дзеячы мастацтваў, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.















Афарыстычная вобразнасць карціны Міхаіла Савіцкага “Сейбіты” (1973 год) з’явілася своеасаблівым эпіграфам да неабдымнай экспазіцыі набыткаў нашага сучаснага выяўленчага мастацтва. Хрэстаматыйнае палатно — як напамін пра знакавыя для суверэннай Беларусі постаці паэтаў-прарокаў. Янка Купала, які “зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла” трымае разгорнутую кнігу са звернутымі да нас крылатымі радкамі: “Я адплацію народу...”. Аркуш з вядомай паэтычнай цытатай: “Ляжыць шырокая дарога...” — у руках Якуба Коласа, які пранёс па сваёй жыццёвай дарозе “пачуццяў многа і светлых думак чараду”...

Дык вось, ля гэтага жывапіснага твора, змешчанага ў цэнтры фае, і адбывалася ўрачыстая цырымонія адкрыцця экспазіцыі “Зямля пад белымі крыламі”, якую арганізавалі Міністэрства культуры краіны, Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Нацыянальны мастацкі музей Беларусі. З прамовамі выступілі міністр культуры Павел Латушка, народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў. Між прывітальных слоў гучалі згадкі пра восень 1925 года, калі адбылася Першая ўсебеларуская мастацкая выстаўка з удзелам такіх выдатных жывапісцаў, як Міхась Філіповіч, Юдаль Пэн, Міхась Станюта, Уладзімір Кудрэвіч. Ухвалялася імкненне адраджаць колішнія добрыя традыцыі, выводзіць мастацтва на пачэснае і годнае месца ў грамадстве, бо менавіта мастацтва дапамагае нам усведамляць сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, пачуваць сябе народам старажытнай і прыгожай зямлі. Акрэслівалася перспектыва гэтага па сутнасці фестывальнага праекта, што ахопіць усю краіну, бо ў яго межах势 планауецца шэраг разнастайных выставак, у тым ліку і перасоўных абменных, якія на працягу некалькіх месяцаў будуць вандраваць па карцінных галерэях і выставачных залах Беларусі, радаваць аматараў мастацтва, а спецыялістам ды крытыкам даваць спажыву для абагульнення і роздуму...

Святочным беларускім каларытам атмасферу вернісажа аздобілі музыкі ды вакалісты Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі”. І ў гэтай узнёслай атмасферы пачыналася знаёмства з экспазіцыяй, сфарміраванай, у асноўным, з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея і з тых работ, якія знаходзяцца ва ўласнасці іх аўтараў — што, дарэчы, заўсёды выклікае асаблівую цікавасць у сур’ёзных аматараў і знаўцаў творчасці айчынных скульптараў, графікаў, майстроў жывапісу.

Такім чынам, да 4 кастрычніка выстаўка будзе працаваць у Мінску, затым экспазіцыя набыткаў беларускага выяўленчага мастацтва XX — XXI стагоддзяў пачне вандраваць па іншых гарадах краіны, прыцягваючы ўвагу, мабыць, не толькі заўсёдных наведвальнікаў вернісажаў. А наша размова пра маштабны праект “Зямля пад белымі крыламі”, які стаўся значным складнікам агульнанацыянальнай грамадска-культурнай акцыі “Беларусь — гэта мы!”, працягнецца ў наступных выпусках “Прасторы ўяўлення”.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Віталь Цвірка “Прыпяць” (палатно, алей); палатно Віктара Грамыкі “Полымя лістапада” (алей); акварэль Генадзя Шутава “Лён” (частка трыпціха “Размова з часам. Янку Купалу і Якубу Коласу прысвячаецца”); Уладзімір Слабодчыкаў “Валянцій Ваньковіч” (бронза); Ларыса Журавовіч “Зялёныя яблыкі” (папера, змяшаная тэхніка); Валянціна Бартлава “Асеннія рытмы” (шэрсць, лён, ткацтва); жывапіснае палатно Васіля Касцючэнкі “Дастань мне Месяц...” і “Вялікая галава каня” (бронза, мармур) Сяргея Бандарэнкі; Уладзімір Крывablоцкі “Дождж” (аргаліт, тэмпера, воск); Май Данцыг “Рабочы” (палатно, алей); Андрэй Вараб’ёў “Пясочны гадзіннік. Кароль і Каралева” (бронза).

Фота аўтара

Калі мастак адзначае сваю адметную жыццёвую дату, ён імкнецца вынесці на суд гледачоў найбольш поўную рэтраспектыву сваёй творчасці, каб паказаць, як змяняўся яго ўнутраны свет, як расло і дужэла прафесійнае майстэрства. 50 лепшых палотнаў 1985 — 2010 гадоў (нацюрморт, пейзаж, партрэт) прапанавала ўвазе публікі барысаўская мастачка Таццяна Каландырэц. У мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя І. Каладзеева адкрылася яе чарговая, сёмая па ліку персанальная выстаўка "Неразгаданая таямніца", прымеркаваная да юбілею аўтаркі карцін.





# Прыгожая таямніца Таццяны Каландырэц



"Да нас дакранулася наша таямніца, каралева маляўнічага цэху, чалавек, які фарміруе і стварае вакол сябе дзівосную прастору прыгажосці. Па-першае, таму што яна сама — чароўная жанчына з незвычайным пачуццём густу. Па-другое, за кожнай карцінай Таццяны схаваная маленькая таямніца, якую мы спрабуем разгадаць. Мне пашанцавала з тых сямі персанальных выставак, што праходзілі ў сценах нашай бібліятэкі, спрычыніцца да падрыхтоўкі чатырох. Таццяна — вялікі сябар, аднадумца, наша пуцяводная зорка, якую мы ў нейкім сэнсе адкрылі. І — наша таямніца".

Таццяна Кірылава, мастацтвазнаўца

Таццяна Каландырэц жыве і працуе ў Барысаве, скончыла тут Барысаўскую студыю выяўленчага мастацтва, а таксама Маскоўскі ўніверсітэт мастацтваў. Яе творы ўпрыгожваюць шматлікія прыватныя калекцыі, як у нас у краіне, так і за мяжой. Таццяна Лявонаўна — прадстаўнік рэалістычнага мастацтва з адмысловым, пажаночы тонкім поглядам на рэчаіснасць. У яе творчым шляху вылучаюцца 1980 — 1990-я гады — пачатак асэнсавання сябе як мастака, час вучобы, спасціжэння сусветнага класічнага мастацтва і сучаснікаў у творчасці, пошук уласнага шляху. Менавіта тады фарміравалася і яе мастацкае крэда.

Цяпер Таццяна Каландырэц — вядомы майстар, яе мастацкі почырк мае шмат прыхільнікаў сярод аматараў выяўленчага мастацтва на Барысаўшчыне. Мастачка надае вялікую ўвагу цэнам і паўцэну, гульні колеру і святла, аб'ёму прадметаў. Яна любуецца святлом, яго праявамі, чараваннем тонкіх каларыстычных адценняў кветак і прадметаў у нацюрмортах. Для кожнай выявы Таццяна Лявонаўна знаходзіць адпаведную танальнасць, што робіць карціну запамінальнай. Свет мастачкі паўстае перад гледачом такім, якім бачыцца ў шчаслівых снах ці юных рамантычных марах, і гэтым светам яна шчодра дзеліцца з гледачамі.

На вернісажы з вітальнымі словамі да мастачкі і наведвальнікаў выстаўкі звярнуліся мастацтвазнаўцы Таццяна Кірылава і Галіна Глебава, актрыса мясцовага самадзейнага тэатра "Відарыс" Людміла Гудзіліна. Яны адзначылі, што гэтая выстаўка для Таццяны юбілейная і таму вельмі важная. У кожнае палатно ўкладзена часцінка душы. Спагадлівасць і шчырасць праходзяць чырвонай ніткай праз усю творчасць мастачкі.

"За творчасцю Таццяны назіраю шмат гадоў — з таго часу, як у горадзе адкрыўся мастацкі салон і ў ім пачалі з'яўляцца яе палотны — вельмі тонкія работы з выдатнай каларыстыкай. Больш за ўсё мяне захапляе яе невынішчальная рамантыка. Радуе, што на яе палотнах шмат кветак. Іх малявáць няпроста, таму што кожная кветка — божае стварэнне. І каб увасобіць на палатне гэты маленечкі твор мастацтва, трэба быць вялікім майстрам".

Людміла Гудзіліна, актрыса і мастак-касцюмер тэатра "Відарыс"

"Для мяне застаецца таямніцай і загадкай, якім чынам Таццяна можа ў кожнае палатно змясціць часцінку сваёй душы, якая пасля будзе цешыць уладальніка карціны. У мяне ёсць яе работа — чырвоныя макі. Раніцай, калі я бачу гэтую карціну, незалежна ад таго, якое надвор'е за акном, у мяне адразу ўздымаецца настрой. Думаю, кожны чалавек, прыйшоўшы на выстаўку, знойдзе для сябе штосьці асаблівае".

Галіна Глебава, мастацтвазнаўца

Мастацтвазнаўцы галерэі "З'ява" паабяцалі стварыць інфармацыйнае партфоліа Таццяны Каландырэц, у якім будуць сабраныя публікацыі пра таленавітую зямлячку і яе выстаўкі.

"Мастацтва можа супрацьпаставіць злу, гвалту, эгаізму жывую прыгажосць, і мастак можа і павінен гэта рабіць", — выказала сваё творчае крэда расчуленая гераіня падзеі. А ў кнізе водгукаў гледачы пакідаюць прызнанні ў захапленні рэдкасным майстэрствам перадачы настрою прыроды, шчодрай, багатай душой Таццяны Каландырэц.

Анатоль МАЗГОЎ
г. Барысаў

На здымках: Таццяна Каландырэц — каралева кветак; карціны, прадстаўленыя ў экспазіцыі.

Фота аўтара

## У наступным нумары

3 першага верасня ўступіў у дзеянне прыняты два гады таму Закон "Аб Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". Законам зацверджана новая рэдакцыя беларускага правапісу, якая ўяўляе сабой найбольш поўны звод сучасных арфаграфічных і пунктуацыйных нормаў. Чаму на пачатку XXI ст. спатрэбіўся гэты закон і навошта трэба было ўносіць карэктывы ў дзеючы правапіс? На пытанні карэспандэнта "ЛіМа" адказвае дарадца міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Віктар Іўчанкаў.

З глыбінкі

# Каралеўскія забавы

У праграме міжнароднага фальклорнага фэсту "Ягелонскі кірмаш" (Польшча) нашу краіну годна прадставілі ўдзельнікі аўтэнтычнага гурта народнага аматарскага аб'яднання "Світанак" Дзятлавіцкага ЦСДК.

У Любліне самадзейныя артысты выступалі на адных пляцоўках з аматарамі традыцыйнай народнай культуры Польшчы, Украіны, Літвы, Латвіі, Балгарыі, Германіі, Венгрыі, Румыніі, Партугаліі. Калі аб'явілі: "Беларусь, Дзятлавічы!", кажуць, мароз па скуры пабег ад асэнсавання адказнасці прадстаўляць сваю краіну.

Аб годным узроўні канцэртаў сведчыць той факт, што ў афіцыйнай праграме былі запланаваны тры абавязковыя выступленні. Калі прадэманстравалі цыкл абрадавых вясельных песень — ад вітця вянкоў да падзякі сватам, так уразілі арганізатараў і гледачоў, што нашых вяскоўцаў запрасілі выступіць дадаткова. За чатыры дні яны далі 7 канцэртаў з рэпертуарам рознай тэматыкі. Дырэктар Дзятлавіцкага ЦСДК Алена Яскевіч падкрэсліла:

— Старажытныя спевы захавалі амаль 80-гадовыя жанчыны: Кацярына, Харыціна і Надзея Кірылаўна Кацубы, Яўгенія Гопта. Падчас выступленняў на гармоніку Павел Касач. Бубнам акцэнтаваў меладычны рытм Мікалай Яскевіч, які ўразіў прысутных індывідуальнай манерай вакалу.

Акрамя рэпартажных тэлездымак, прыемным сюрпрызам стаў эксклюзіўны запіс. У тэлестудыю "Світанак" запрасілі па рэкамендацыі прафесара мастацтвазнаўства Польскай акадэміі Анджэя Бянькоўскага, стваральніка праграмы "1000 кіламетраў музыкі". Як адзначыў мэтр, незабыўнае ўражанне на яго аказала песня "Маладзіца жыта жала"...

Моўны бар'ер знікаў, як толькі выходзілі на сцэну. Спевы, што ідуць ад душы, не патрабуюць перакладу! Зразумелае хваляванне перашкодзіла запомніць усе кампліменты, якія гучалі з вуснаў асабліва захопленых гледачоў.

Самадзейныя артысты ведалі: галоўная ацэнка творчасці — запрашэнне на наступны фэст. Беларусь яго атрымала!

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3046
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 16.09.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4455
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12